—Людзьмі звацца!
Янка Купала

ЛіМ

ГАЗЕТА ТВОРЧАЙ ІНТЭЛІГЕНЦЫІ БЕЛАРУСІ

ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА

ПЯТНІЦА
20
ЛІСТАПАДА
1992 г.
№ 47 (3665)

ВЫХОДЗІЦЬ
з 1932 г.

КОШТ — 1 рубель.
(Па падпісцы — 10 кап.)

## КУФЭРАК ПАМЯЦІ

**Марыя ПАНКОВА: «Дзіўна, гэта колькі яшчэ гадоў назад тут чулася сакавітая родная мова, цяпер жа... На мяне і на малую тут глядзяць як на прышэльцаў з космасу: «Як гэта ты, Маня, у горадзе жывеш, а размаўляеш не па-гарадскому!» І малую выдрэсіравала так! А Бо-о, а Бо-о, як жа яна вучыцца ў цябе будзе, калі ўсе цяпер па-руску гавораць! Яна ж белай варонай у цябе будзе».**

СТАРОНКІ 5, 12

## КЛІЧ БАЦЬКАЎШЧЫНЫ

**Апавяданне Яўгена КУРТО.**

СТАРОНКІ 8—9

## МУЗЫКА МЕЖАЎ НЕ ВЕДАЕ...

**Гутарка з мастацкім кіраўніком Белдзяржфілармоніі Юрыем ГІЛЬДЗЮКОМ перад адкрыццём фестывалю «Беларуская музычная восень».**

СТАРОНКІ 10—11

## БАЛЬ ШЧАСЛІВЫХ ПАПЯЛУШАК

**«Хэло, Долі!» у Дзяржаўным тэатры музычнай камедыі Беларусі.**

СТАРОНКА 11

## БЕЛАРУС У КАМАНДЗЕ «ЛЕНД-ЛІЗА»

**Валянцін ЛУКАШОЎ: «Бацька, як расказвалі пасля працаваўшыя побач з ім супрацоўнікі, стаў душэўным цэнтрам савецкай місіі: да яго гарнуліся савецкія людзі, што знаходзіліся там. Ад яго зыходзіла цвёрдая, спакойная ўпэўненасць, якая нараджала надзею».**

СТАРОНКІ 14—15

## ВУЧОНЫ-ПЕДАГОГ Іван САМКОВІЧ

**«Мартыралог Беларусі»: вяртанне забытага імя.**

СТАРОНКА 16



Сёлета ўгодкі Слуцкага паўстання (лістапад-снежань 1920 года) Беларусь адзначае яшчэ неафіцыйна, але ўжо адкрыта. Тады, больш як 70 год назад, лёс не быў літасцівым да нашай дзяржавы: мы не змаглі стварыць нацыянальнае войска, якое магло б абараніць Беларускую Народную Рэспубліку, супрацьстаяць інтэрвентам з Усходу і Захаду.

Слуцкія паўстанцы падзялілі трагічны лёс сваіх папярэднікаў — паўстанцаў Касцюшкі і Каліноўскага. З горкага вопыту трэба рабіць высновы. Зразумела, сёння іншы час. У канцы XX стагоддзя наяўнасць у дзяржавы войска яшчэ не гарантуе суверэнітэту. Але ж і без войска не можа быць незалежнасці, асабліва для Беларусі — краіны ў цэнтры Еўропы.

Афіцэры Беларускага згуртавання вайскоўцаў бачаць сваёй галоўнай мэтай выхаванне воіна-патрыёта, бо толькі патрыёту можна даверыць зброю.

**Гэты здымак зроблены 8 верасня 1992 года ў Менску на плошчы Незалежнасці. Нашы чытачы памятаюць, што ў той дзень адбылося сімвалічнае прынясенне прысягі на вернасць народу Беларусі афіцэрамі БЗВ і вайскоўцамі запасу. Першы справа — старшыня БЗВ падпалкоўнік М. Статкевіч.**

Фота У. КАРМІЛКІНА.

# Кола Дзён

На мінулым тыдні пацярпела крах чарговая кабінетная ідэя. Паколькі зараз адчуваюцца вялікія цяжкасці з дробнай манетай, было вырашана правесці, так бы мовіць, рэвальвацыю медных капеек, падняўшы іх вартасць у 10 разоў. Усяго праз некалькі дзён эксперымент давялося спыніць, бо на такую колькасць медзякоў, якая назапасілася ў пакупнікоў, гандаль, відаць, не разлічваў.

Цяжка сказаць, у чым быў сэнс эксперымента і ці не паспеў нехта пагрэць на ім рукі.

Зрэшты, праблему з дробяззю трэба разглядаць у больш шырокім кантэксце грашова-фінансавай рэформы, якая даўно наспела і пераспела. У гэтым сэнсе варта прыгледзецца да апошніх крокаў Украіны. Яе прэзідэнт падпісаў указ аб грашовай рэформе (які ва ўсякім выпадку дае яснае ўяўленне і пра мэту — увядзенне нацыянальнай валюты) і пра этапы яе правядзення.

**13 ЛІСТАПАДА**

У Маскве прайшла сустрэча кіраўнікоў урадаў Садружнасці. Былі падпісаны 18 дакументаў па эканамічных і вайсковых пытаннях. Пытанне аб статусе СНД адкладзена, паколькі супраць яго прыняцця выступаюць Украіна і Туркменістан. Не ўдалося прыняць канчатковае рашэнне і па тэлекампаніі «Астанкіна».

**14 ЛІСТАПАДА**

У сталіцы Славакіі Браціславе адбылося пахаванне А. Дубчака. Узначальўшы ў свой час кампартыю Чэхаславаччыны, ён атрымаў сусветную вядомасць як рэфарматар, лідэр «Пражскай вясны». У нядаўнім мінулым Дубчак быў Старшынёй Федэральнага сходу ЧСФР. На пахаванні, разам з дзяржаўнымі і палітычнымі дзеячамі з розных краін, быў і Старшыня Вярхоўнага Савета Беларусі С. Шушкевіч.

Ініцыятыўная група БНФ па правядзенні рэспубліканскага рэферэндуму правяла ў Мінску нараду з удзелам прадстаўнікоў розных партый. Былі вызначаны канкрэтныя крокі ў сітуацыі, якая склалася пасля таго, як Вярхоўны Савет выступіў фактычна супраць волі выбаршчыкаў.

**15 ЛІСТАПАДА**

Сялянская партыя Беларусі ў Дзень работнікаў сельскай гаспадаркі правяла на плошчы Незалежнасці ў Мінску свой першы мітынг. Старшыня СПБ Я. Лугін, акадэмік І. Нікітчанка, народны дэпутат Л. Зданевіч, іншыя прамоўцы крытыкавалі праект Закона «Аб праве ўласнасці на зямлю», які ў бліжэйшы час будзе прадстаўлены на разгляд сесіі парламента. На іх думку, гэты закон канчаткова пахавае зямельную рэформу, бо зямля стане ўласнасцю не сялян, а старшынь калгасаў, хоць і будзе лічыцца «калектыўнай».

На выбарах у літоўскі сейм ДППЛ (партыя Бразаўскаса) заваявала ў выніку другога тура галасавання пераважную колькасць месцаў у парламенце.

**16 ЛІСТАПАДА**

Прадстаўнікі нацыянальных банкаў СНД правялі ў Маскве перамовы адносна стану і перспектываў так званай рублёвай зоны. Як вядома, у гэты дзень Украіна канчаткова адмовілася ад рубля на сваёй тэрыторыі. Прэм'ер Беларусі В. Кебіч на прэс-канферэнцыі ў Мінску заявіў, што адзінай рублёвай прасторы ўжо не існуе. Па яго словах, расійскі рубель будзе ў нас каштаваць прыкладна 60 беларускіх капеек. Тым часам прэзідэнт Расіі Б. Ельцын паведаміў, што краінам, якія выйдуць з рублёвай зоны, прыйдзецца купляць паліва за цвёрдую валюту па сусветных цэнах.

**17 ЛІСТАПАДА**

Апублікаваны афіцыйныя звесткі аб рабоце народнай гаспадаркі Беларусі ў студзені-верасні г. г. Нацыянальны прыбытак у параўнанні з мінулым годам упаў на 15 працэнтаў. Аднак тэмпы яго падзення, як з аптымізмам паведамляе Дзяржкамстат, ніжэй, чым у нашых суседзяў па СНД. Трохі ніжэйшыя ў нас і цэны. Але суцяшэнне гэта слабое.

**18 ЛІСТАПАДА**

З аднадзённым афіцыйным візітам Рэспубліку Беларусь наведала прэм'ер-міністр Рэспублікі Польшча пані Х. Сухоцка. Яна правяла перамовы з кіраўніцтвам Беларусі.

**19 ЛІСТАПАДА**

У Мінску адкрылася міжнародная канферэнцыя «Эканамічныя рэформы ў посткамуністычную эпоху і ліберальны выбар». У ёй прымаюць удзел вядомыя эканамісты, палітычныя і грамадскія дзеячы, прадпрымальнікі Беларусі, Расіі, Польшчы, Германіі і іншых краін.

**ПАРЛАМЕНЦКІ ДЗЁННІК**

# ТЫДЗЕНЬ НА РОЗДУМ

Гэты тыдзень на сесіі Вярхоўнага Савета быў выхадны. Планавалася, што перапынак будзе выкарыстаны для работы ў камісіях.

Фактычна парламент прайшоў трэць дыстанцыі. Перад перапынкам была завершана ў асноўным работа над пытаннямі абароны — адным з апошніх прыняты, у прыватнасці, Закон аб статусе вайскоўца. Даволі спакойна праходзіла абмеркаванне Закона аб ахове помнікаў гісторыі і культуры. Спрэчкі галоўным чынам тычыліся тых пунктаў закона, дзе гаворыцца аб адказнасці за іх парушэнне, а таксама аб крыніцах фінансавання (найбольш балючая праблема).

Не абышлося, праўда, без кур'ёзаў. Напрыклад, адзін з дэпутатаў прапанаваў (цытую): «чтобы все основные памятники культуры были разложены в ряд». (Мелася на ўвазе, што патрэбны спіс помнікаў з пазначэннем іх статусу — рэспубліканскага, абласнога і г. д.). Давялося дэпутату А. Трусаву, які прадстаўляў законапраект ад імя камісіі, нагадаць, што Беларусь — адзіная ў СНД рэспубліка, у якой выдадзены поўны Збор помнікаў з падрабязным іх апісаннем і класіфікацыяй. Прыняты быў «пад заслону» і яшчэ цэлы шэраг законаў сацыяльнага характару ў першым чытанні.

Зразумелую цікавасць выклікала напярэдадні абмеркаванне Закона аб Камітэце бяспекі (так цяпер будзе называцца КДБ), а таксама пастановы аб барацьбе з арганізаванай злачыннасцю і карупцыяй. Гэтыя два пытанні невыпадкова стаялі побач, бо яны даволі цесна звязаны. Старшыня КДБ Э. Шыркоўскі на сваёй прэс-канферэнцыі (яго даклад на сесіі быў закрыты) гаварыў аб тым, што карупцыя падрывае ўстоі дзяржаўнасці. Ён сказаў, што ёсць факты, якія сведчаць пра ўдзел работнікаў Саўміна і народных дэпутатаў у злачынных махінацыях. Аднак назваць канкрэтныя імёны адмовіўся. Падобнай неканкрэтнасцю, трэба сказаць, грашыў і даклад в. а. пракурора рэспублікі У. Кандрацьева, калі размова заходзіла пра вышэйшыя эшалоны ўлады.

Не даў тлумачэнняў старшыня КДБ і адносна «агентаў уплыву», якія, паводле яго слоў, ёсць і ў парламенце. Гэты тэрмін, калі ўспомніць, мы ўпершыню пачулі з вуснаў нядаўняга кіраўніка саюзнага КДБ Кручкова. Нездарма некаторыя дэпутаты выказваюць апасенні, што ўзаконенне такога паняцця можа прывесці да «палявання на вядзьмарак», — пераследавання дэпутатаў, журналістаў ды іншых асоб, якія, скажам, маюць кантакты з замежнікамі...

Суцяшае, праўда, той факт, што ў спрэчках удалося адстаяць падпарадкаванне Камітэта бяспекі парламенту, як цяпер, а не Саўміну, як гэта прапаноўвалася, прычым вельмі настойліва, некаторымі дэпутатамі. Больш таго, будзе створана асобная дэпутацкая камісія з правам кантролю гэтага ведамства. Але, зусім верагодна, што галоўная барацьба за падпарадкаванне гэтага магутнага інструмента ўлады яшчэ наперадзе.

Пра пэўныя палітычныя ўплывы сведчыць, на мой погляд, і пастанова аб барацьбе з карупцыяй. Другім пунктам гэтай пастановы стала рашэнне спыніць прыватызацыю ў рэспубліцы (за выключэннем жылля) да прыняцця адпаведнага закона. Дэпутаты прагаласавалі за гэтую прапанову на рэдкасць аднадушна. Канечне, злоўжыванні ў гэтай сферы выклікаюць справядлівае абурэнне многіх выбаршчыкаў. Але ці падалі дэпутаты сваім рашэннем прыклад прававога падыходу? Ці не ёсць гэта праява старой звычкі змагацца з вынікамі з'явы, а не яе прычынамі? Ёсць, напрыклад, сур'ёзныя сумненні, што прынятае рашэнне сапраўды пакладзе крыж на злоўжываннях наменклатуры, якая пры адсутнасці заканадаўства па той або іншай эканамічнай праблеме адчувае сябе як рыба ў вадзе. Зразумела, што забарніць — прасцей, чым разбірацца з тым, што на самай справе адбываецца ў грамадстве, што замінае развіццю нармальных рынкавых адносін, а што, наадварот, спрыяе розным мафіёзным структурам. Прынятае рашэнне, хутчэй за ўсё — толькі ілюзія рашэння праблемы.

**Віталь ТАРАС.**

# ГАРЫЗОНТЫ СУПРАЦОЎНІЦТВА

**По запрашэнні кіраўніцтва Польскага тэлебачання ў суседняй краіне пабывалі міністр інфармацыі Рэспублікі Беларусь Анатоль Бутэвіч і старшыня Нацыянальнай дзяржаўнай тэлерадыёкампаніі Беларусі Аляксандр Сталяроў. Былі абмеркаваны і ўдакладнены формы супрацоўніцтва паміж Польскім і Беларускім тэлебачаннем у рамках заключанага сёлета пагаднення. У прыватнасці, дасягнута дамоўленасць аб правядзенні ў першым квартале будучага года Тыдня Беларускага тэлебачання на Польскім тэлебачанні і такога ж мерапрыемства ў Беларусі. Разгледжаны канкрэтныя прапановы па арганізацыі сумесных мерапрыемстваў у сувязі з падрыхтоўкай да 200-годдзя з дня нараджэння Адама Міцкевіча.**

**Падчас сустрэчы ў Беластоку з прадстаўнікамі Беларускага грамадска-культурнага таварыства былі абмеркаваны пытанні пашырэння ўзаемных кантактаў і рэальнай падтрымкі дзейнасці таварыства з боку Міністэрства інфармацыі Беларусі.**

**Беларускаму музею ў Гайнаўцы перададзена бібліятэчка гістарычнай літаратуры беларускіх выдавецтваў.**

**Дасягнуты канкрэтныя дамоўленасці аб супрацоўніцтве Беластоцкага і Беларускага радыё ў сферы абмену інфармацыйнымі і культурнымі праграмамі, а таксама ўласнымі карэспандэнтамі.**

**М. К.**

**РЭПЛІКА**

# «Усяленская смазь»... па-сталічнаму

**На справядлівую крытыку, як паказвае вопыт, рэагуюць па-рознаму. Адны хоць і крыўдуюць, ды стараюцца палепшыць справу. Другія робяць выгляд, што нічога страшнага не адбылося (маўляў, не вы мяне прызначалі, не вам і здымаць). А трэція раз'юшваюцца і выкульваюць на «крыўдзіцеля» цэбар з памыямі. Радыёстанцыя «Сталіца» Мінскага абласнога радыё выбрала апошні з названых — не самы прыгожы — від рэакцыі. Каторы раз яна паўтарае ў эфіры «адлуп» «ЛіМу» (публікацыя «Сумна, але факт...» у нумары за 9.10 г. г.) і лімаўскаму аўтару, якога абзывае «ананімам», «даносчыкам» і нават «сексотам».**

**Ананім, які падпісвае сваю пастаянную рубрыку сваімі ж ініцыяламі?**

**Даносчык, які «данёс» чытачу, што ён думае пра якасць перадач рэспубліканскага і абласнога радыё, прадукцыі БТ?**

**Ну, а «сексот» — яўны перабор у красамоўстве, тут і каментарый залішні.**

**Калі невядомы (сапраўды ананімны!) аўтар водпаведзі чытае ў тыднёвіку не толькі крытыку ў свой адрас, але і іншыя матэрыялы, калі ён зазірае хаця б на апошнюю паласу, дзе прозвішчы і тэлефоны нашых супрацоўнікаў, то ён пэўна ведае гэтага злашчаснага ананіма. Аднак дасведчанасці сваёй не паказаў, прасцячком прыкінуўся: інačай за што ўчапіцца? Не прызнавацца ж, на самай справе, ва ўласнай неадпаведнасці часу і задачам духоўнага, культурнага адраджэння, у прафнепрыгоднасці — па вялікім рахунку. А гаўкацца, як кажуць у народзе, — гэта па-нашаму, па-сталічнаму. Нам можна, мы не на Чырвонай размяшчаемся (якая жудасная памылка!), а на Захарава, па цотным прытым нумары. Амаль што незалежнае ідэалагічнае падраздзяленне. Вярзём што хочам на цэлую вобласць, і аніякіх наследстваў. Ды яшчэ і ў позу становімся. Як, дарэчы, і рэдакцыя літаратурна-драматычнага вяшчання рэспубліканскага радыё. Яе супрацоўнікі, як сапраўдныя джэнтльмены, таксама абяцаюць «прайсціся». Хто-хто, а яны маглі б і прывыкнуць: уласнаручна адказ пісалі на адкрыты ліст пісьменнікаў да старшыні тагачаснага Дзяржтэлерадыё. Той, нагадаем, не змаргнуўшы, падпісаў гэты дзіўны ліст, з якога асабліва запомніўся наступны сказ: «Адна дзяка за рыбу і за рака».**

**Так, на бязрыб'і і рак — рыба... Колькі газет маюць прабелы ў штатных раскладах, але знайсці здольных журналістаў не так проста. Тым часам радыёаўтар «усяленскай смазі» ціха радуецца ды паціраe рукі: во ўлупіў, во даў здачы...**

**Галіна КАРЖАНЕЎСКАЯ.**

# Хроніка Адраджэння

На кінаэкраны Беларусі выйшаў першы замежны фільм, перакладзены на беларускую мову. Ім стала вядомая ў свеце карціна «Ісус» (ЗША), якая ўжо прадубліравана на 240 моў. Пераклад зроблены незалежнай студыяй «Арэна» на кінастудыі «Беларусьфільм».

●

Менскае навукова-вытворчае аб'яднанне сродкаў механізацыі й аснашчэння «Прагрэс» выпусціла два значкі з адлюстраваннем сцяга і герба нашае краіны.

●

Дзяржаўны спіс помнікаў горадабудаўніцтва і дойлідства мясцовага значэння дапоўніўся на Віцебшчыне новымі аб'ектамі. Сярод іх помнікі М. Шагалу ў Віцебску і У. Караткевічу ў Оршы, касцёлы ў Талачыне і в. Вілейка Докшыцкага раёна.

●

Споўніўся год пастаўскай незалежнай газеце «Сумежжа», заснаванай мясцовымі філіяй БСДГ і літааб'яднаннем «Світанак» ТБМ імя Ф. Скарыны. Выданне актыўна выступае за нацыянальнае адраджэнне, дэмакратыю, адлюстроўвае падзеі мінуўшчыны і сучаснае жыццё. Частыя госці на старонках «Сумежжа» — пачынаючыя аматары літаратурнае творчасці. Газета зарэгістравана ў Міністэрстве інфармацыі.

●

Другі год працуе ў віцебскай СШ № 15 нацыянальная гімназія. Яе выхаванцы грунтоўна вывучаюць родную мову, гісторыю беларускае й сусветнае культуры, развіваюць свае здольнасці ў музыцы і харэаграфіі, займаюцца мастацкай працай ды фехтаваннем. Наперадзе ў іх заняткі па старажытнай і сучасных мовах, курс гісторыі рэлігіі, праграмы па тэатральным мастацтве і іншых нетрадыцыйных для звычайнае сярэдняе школы дысцыплінах.

●

Расчыніла дзверы літаратурная гасцёўня «Крынічка» ў эстэтычным цэнтры віцебскага абласнога аб'яднання пазашкольнай работы. Яе першае пасяджэнне, на якое завіталі з творчымі выступамі паэты А. Салтук, П. Ламан, актрыса Коласаўскага тэатра З. Гурбо, было прысвечана юбілею песняроў Бацькаўшчыны Я. Купалы і Я. Коласа. Мяркуецца, што пры гасцёўні будзе працаваць літаратурная пошта, якая дапаможа дзецям развіваць творчыя здольнасці, пашыраць веды ў галіне мастацтва.

**Юрась СЦЯПАНАЎ,**
**наш карэспандэнт у Віцебску.**

# БЕЛАРУСЬ—НАШ ДОМ

14 лістапада адбылася Канферэнцыя Ініцыятыўнай групы рэферэндуму і Сойма Беларускага Народнага Фронту «Адраджэнне». Сябры Ініцыятыўнай групы і Сойма сабраліся ў адзін час і ў адной зале, разам абмяркоўвалі сітуацыю, якая склалася на Беларусі ў сувязі з пастановай Вярхоўнага Савета ад 29 кастрычніка, але па выніковых дакументах Канферэнцыя і Сойм галасавалі паасобку. Кожны за сваё.

З дакладам аб задачах і тактыцы Ініцыятыўнай групы на дадзеным этапе выступіў яе старшыня У. Анцулевіч. Ён адзначыў, што хоць пасля 29 кастрычніка Вярхоўны Савет утрымлівае ўладу незаконнымі сродкамі, грамадзяне Беларусі не павінны адказваць гвалтам на гвалт. Усё роўна рэферэндум будзе і будуць выбары, у адпаведнасці з законам, прапанаваным БНФ.

Аб раскладзе сіл у Вярхоўным Савеце і магчымым у сувязі з гэтым развіцці падзей распавядаў З. Пазняк. Бальшавіцкая наменклатурная большасць у ВС, ачуняўшы пасля жнівеньскай мінулагодняй паразы, спрабуе здзейсніць рэванш. Гэтым тлумачыцца добра арганізаваная кампанія супраць беларускай мовы як дзяржаўнай мовы РБ, супраць дзяржаўнай сімволікі Рэспублікі Беларусь, супраць нашага нейтралітэта. Камуністычная наменклатура ў Вярхоўным Савеце збіраецца адрадзіць КПБ—КПСС (а там і да рэанімацыі СССР недалёка). Гэтыя дзеянні Вярхоўнага Савета ў сукупнасці з пастановай 29 кастрычніка яшчэ раз пацвярджаюць антыдэмакратычны і антыбеларускі характар вярхоўнай улады на Беларусі. На думку лідэра БНФ, сёння толькі апазіцыя застаецца легітымнай часткай Вярхоўнага Савета.

У дыскусіі выступілі прадстаўнікі шэрагу партый блоку «Рэферэндум». Агульную думку можна акрэсліць так: блок «Рэферэндум» павінен трансфармавацца ў блок «Дэмакратычныя выбары». Праўда, «асобнае» меркаванне выказалі прадстаўнікі Аб'яднанай дэмакратычнай партыі. У мяне склалася ўражанне, што яны не вельмі ўтульна адчуваюць сябе ў кампаніі БНФ і БСДГ, але і на самастойную палітыку не адважваюцца, бо рэальна ацэньваюць сваю палітычную вагу.

На заканчэнне былі прыняты тры дакументы, з якіх працытую важнейшыя мясціны.

«Ініцыятыўная група не лічыць выкананымі свае абавязкі перад 442 тысячамі грамадзян, што выказаліся за рэферэндум, заяўляе, што будзе дамагацца перагляду незаконнага рашэння ўсімі магчымымі сродкамі. Пры гэтым, як і раней, мы будзем кіравацца прынцыпамі безумоўнай павагі да Закону, прынцыпам не адказваць насіллем на насілле, нягледзячы на гвалтоўнасць дзеянняў улад».

(Са Звароту Ініцыятыўнай групы рэферэндуму да грамадзян Беларусі).

«Рашэнне аб забароне рэферэндуму — гэта спроба задушыць маладую дэмакратыю на Беларусі. Нельга дазволіць, каб гэта спроба ўдалася. Рэцыдыў таталітарных паводзін кіраўніцтва Беларусі стварае небяспечны прэцэдэнт, бо гэта ставіць пад сумненне магчымасць канстытуцыйнага пераходу ад таталітарызму да дэмакратыі.

(...)Не адказваючы насіллем на насілле, мы будзем дамагацца выканання Закону, выканання волевыяўлення 442 тысяч грамадзян Беларусі».

(Са Звароту Ініцыятыўнай групы да міжнароднай супольнасці).

«Мы перакананы ў тым, што рэферэндум павінен адбыцца. Падрыхтоўку да яго правядзення лічым мэтазгодным распачаць з вылучэння кандыдатур у камісіі па рэферэндуме. Мы выступаем за ўмацаванне блоку «Рэферэндум» і за стварэнне на яго базе выбарчага аб'яднання. Сойм пацвярджае, што бачыць у задзіночанні БНФ і дэмакратычных партый перспектыву перамогі дэмакратыі, адстаяння і ўмацавання незалежнай дзяржаўнасці, аздараўлення эканомікі, дабрабыту, нацыянальна-культурнага адраджэння — ЛАДУ У НАШЫМ БЕЛАРУСКІМ ДОМЕ».

(З заявы Сойма БНФ «Адраджэнне» «Беларусь — наш дом»).

**П. ВАСІЛЕЎСКІ,**
**спецкар. «ЛіМа».**

НА СТАРОНКАХ ПРЭСЫ

## ЗА МЯЖОЙ НАС ЗНОЎ НЕ РАЗУМЕЮЦЬ...

У № 14 варшаўская «Газета польска», што выдаецца Канфедэрацыяй незалежнай Польшчы, змясціла артыкул Чэслава Сэнюха «Таямнічая смерць паэта» пра гібель класіка беларускай літаратуры Янкі Купалы. Аўтар адзначае, што дагэтуль «не апублікавана на гэтую тэму аніякага афіцыйнага паведамлення, якое б абапіралася на чэснае следства».

А вось у лістападаўскім нумары канадскага бюлетэню «Зважай» уражанні беларускага эміграцыйнага пісьменніка Кастуся Акулы — з побыту ў Вязынцы: «На сцяне сялянскай хаты,— памятная дошка. Чорная як дзёгаць! Нічога на ёй не прачытаеш. Магчыма, што яе, памятную, ужо шашаль точыць... Воддаль, на парадным месцы, пры дарожцы між кветак, зязе на сонцы змайстраваны некалі Азгурам бюст Купалы. Чытайце, людзі добрыя, пра тую вялізную «мудрасць», якую зззяючымі літарамі на цэлы прастор «імперыі зла» ён рэкламуе:

**З Масквы з Крамля ходаю удумнай,**
**Усенароднай, чалавечай,**
**Ідзе, таварышы, камуна**
**На сьвеце шчасьце увекавечыць...**

У заключэнне К. Акула задае горкае пытанне: «Пасля жахлівага Гулагу, Курапатаў і Чарнобыля як яшчэ можна цярпець змайстраваную нашымі ворагамі агіду — знявагу, што й сёння апаганьвае Вязынку — месца нараджэння нашага народнага Волата?»

**Ю. С.**

## «ДЗЕЯЧЫ КУЛЬТУРЫ І МАСТАЦТВА СУПРАЦЬ СНІДу»

**З 23 лістапада па 2 снежня Рэспубліканскі цэнтр прафілактыкі СНІДу сумесна з творчымі калектывамі Беларусі, а таксама калегамі з Расіі і Украіны будзе праводзіць дабрачынную акцыю «Дзеячы культуры і мастацтва супраць СНІДу». Мэта гэтай акцыі — паказаць, што праблема СНІДу не толькі медыцынская, гэта праблема ўсяго грамадства. Яна ўсвядомлена ўжо ва ўсім свеце. Штогод 1 снежня Сусветная арганізацыя аховы здароўя праводзіць Сусветны дзень прафілактыкі СНІДу.**

**У рамках дабрачыннай акцыі ў Мінску пройдуць выступленні ансамбля «Класік-Авангард», нашага сімфанічнага аркестра, адбудуцца творчыя сустрэчы з кінарэжысёрамі К. Муратавай, М. Кацам, С. Рахманіным, Ю. Садомскім. Тэатр Юрыя Тамашэўскага «Приют комедианта» з Санкт - Пецярбурга прадставіць паэза-канцэрт па творах І. Севяраніна, С. Чорнага, М. Агніўцава. Будуць працаваць шматлікія выставы і экспазіцыі.**

У ПАРТЫЯХ І РУХАХ

## «ХВАЛЮЮЦЬ ЎСЁ ГРАМАДСТВА»

Як мы раней паведамлялі, нядаўна прайшоў пленум Цэнтральнай Рады Беларускай сацыял-дэмакратычнай Грамады. Сярод палітычных дакументаў, прынятых пленумам, — рэзалюцыя аб сацыяльна-эканамічным становішчы Рэспублікі Беларусь. Рэзалюцыя, у прыватнасці, канстатуе, што «...былая наменклатура, у чыіх інтарэсах дзейнічае ўрад і большасць дэпутатаў Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь, не імкнецца стварыць прававую базу для паляпшэння становішча, бо галоўная яе мэта скарыстаць безуладдзе для асабістага абагачэння за кошт народа. Да гэтага часу не праведзена інвентарызацыя і ацэнка дзяржаўнай маёмасці, не вызначаны меры па надзейным яе захоўванні. Не прыняты закон аб прыватызацыі, а народнае дабро расцягваецца тымі, хто знаходзіцца ва ўладзе ці каля яе...

У краіне тармозіцца аграрная рэформа. Да гэтага часу не вырашана пытанне аб прыватнай уласнасці на зямлю, не вядзецца арганізацыйная перабудова калгасаў і саўгасаў і чыняцца перашкоды ў станаўленні фермерскіх гаспадарак...

Усё грамадства хвалюююць... сацыяльныя праблемы: пераадоленне чарнобыльскай бяды, нізкага жыццёвага ўзроўню значнай часткі насельніцтва краіны: пенсіянераў, студэнтаў, нізкааплатных служачых, шматдзетных сем'яў...

Выйсце з гэтага цяжкага становішча бачыцца ў тым, каб у самы кароткі час ажыццявіць структурную перабудову народнай гаспадаркі, скіраваўшы яе на задавальненне патрэбаў чалавека, актывізаваць знешнеінвестыцыйную дзейнасць з мэтай гарантаванага забеспячэння Рэспублікі энерганосьбітамі і сыравінай, паскорыць працэс стварэння законнай асновы для раздзяржаўлення і прыватызацыі дзяржаўнай уласнасці, каб распрыгоніць творчую ініцыятыву працоўных, неадкладна перайсці да самастойнай фінансава-крэдытнай палітыкі».

БЕЛАРУСЬ—УКРАІНА

# МАЦУЙМА БРАТЭРСТВА!

Беларуска-ўкраінскія літаратурныя і культурныя сувязі сягаюць у глыбіню стагоддзяў. Асабліва пашырыліся, узмацніліся яны ў XX стагоддзі — у перыяд нацыянальнага адраджэння украінцаў і беларусаў, станаўлення Беларускай і Украінскай дзяржаў. Ля вытокаў нашага пабрацімства новага часу стаялі украінцы І. Свянціцкі, Д. Дарашэнка, І. Крып'якевіч, М. Драй-Хмара, У. Сасюра, М. Рыльскі, беларусы М. Багдановіч, Цётка, В. Ластоўскі, Янка Купала, Якуб Колас. Не перапыняліся яны, повязі братэрства, ні ў грозны ваенны, ні ў цяжкі пасляваенны час, ні ў апошнія дзесяцігоддзі. На Беларусі вырасла выдатная кагорта даследчыкаў, прапагандыстаў, шчырых шанавальнікаў украінскай культуры, сярод якіх — пісьменнікі, вучоныя, артысты, мастакі... Адзін Уладзімір Караткевіч чаго варты! У той жа час на Украіне заявіла пра сябе цэлая генерацыя сяброў Беларусі, сапраўдных паўпрэдаў беларускай культуры. Гэта — Д. Паўлычка, Р. Лубкіўскі, У. Лучук, Т. Каламіец, Д. Чарадніччэнка, І. Дзнысюк, Л. Бондар, Р. Піўтарак, М. Львовіч, А. Юшчанка... .

Наш няпросты лёсавырашальны сённяшні дзень акрэсліў некаторыя новыя шляхі і формы беларуска-ўкраінскіх духоўных узаемасувязей. Так, на Украіне з'явіліся беларускія зямляцтвы, на Беларусі — украінскія, якія нямала робяць для нацыянальнага самавызначэння адпаведна беларусаў і украінцаў, наладжвання непасрэдных, нефармальных міжнацыянальных кантактаў. У Мінску прайшоў арганізацыйны кангрэс Міжнароднай асацыяцыі беларусістаў, нацыянальныя і рэгіянальныя філіі якой узніклі ў многіх дзяржавах свету, у тым ліку і не незалежнай Украіне. З другога боку, украінازнаўцы ўсіх кантынентаў аб'ядналіся ў шэрагах Міжнароднай асацыяцыі ўкраіністаў (МАУ). Філіі МАУ існуюць цяпер у Еўропе і Азіі, Амерыцы і Афрыцы, бадай, ва ўсіх рэспубліках былога СССР. Аднак, як ні дзіўна, родная сястра і бліжэйшая суседка Украіны сінявокая Беларусь дагэтуль не паруплілася сабраць свае ўкраіназнаўчыя сілы, каб агульнымі намаганнямі адолець паласу адчужэння, што пачала самым апошнім часам узнікаць паміж народамі ў выніку палітычнай нестабільнасці і эканамічнага крызісу. Ды, як кажуць, лепш позна, чым ніколі...

Гэтыя радкі і выкліканы жаданнем заклікаць усіх украіназнаўцаў Рэспублікі Беларусь да гуртавання, да стварэння філіі МАУ у нашай маладой вольнай дзяржаве. Беларуская асацыяцыя ўкраіністаў павінна стаць, на нашу думку, адным з актыўных і плённых асяродкаў МАУ, які можа і павінен многае зрабіць для вывучэння і прапаганды ўкраінскай культуры, больш глыбокага азнаямлення беларусаў з Украінай і ўкраінскім народам, для ўмацавання добрасуседскіх адносін паміж нашымі дзяржавамі. Для гэтага ў нас усё ёсць: навуковыя і творчыя сілы (а членам МАУ можа стаць кожны, хто ўнёс канкрэтны навуковы ці творчы ўклад у вывучэнне або прапаганду ўкраінскай культуры), даволі багатыя ўкраіназнаўчыя традыцыі, трывалыя кантакты з украінскім навуковым і культурным асяродзем. І, галоўнае, шчырае імкненне паслужыць як нэньцы-Украіне, так і маці-Беларусі.

Заснавальнікамі Беларускай асацыяцыі ўкраіністаў, думаецца, найперш павінны стаць знаўцы і даследчыкі ўкраінскай культуры Беларускага дзяржаўнага універсітэта, Акадэміі навук Беларусі, беларускія пісьменнікі, выкладчыкі сталічных і абласных ВНУ. Арганізацыйна такая асацыяцыя (як нацыянальная філія МАУ) найлепш, відавочна, будзе пачуваецца пры Нацыянальным навукова-асветным цэнтры імя Ф. Скарыны. У Скарынаўскага цэнтра, па-першае, ёсць пэўны вопыт у арганізацыі працы такіх творчых асяродкаў. Так, пры ім існуюць сябрыны польскай і літоўскай культур, арганізуецца сябрына туркменскай культуры. Па-другое, на аснове Скарынаўскага цэнтра функцыянуе згаданая ўжо Міжнародная асацыяцыя беларусістаў...

Засталося сказаць, што першы, арганізацыйны сход Беларускай асацыяцыі ўкраіністаў мяркуецца правесці ў бліжэйшую сераду, 25 лістапада, у 16 гадзін, у Доме літаратара. Той жа, хто не здолее трапіць на гэты сход, але пажадае ўдзельнічаць у працы асацыяцыі, можа напісаць на адрас:**220072, Мінск, пр. Скарыны, 66, п. 420. Тэл. 33-48-83.**

**Таццяна КАБРЖЫЦКАЯ,**
**дацэнт Беларускага дзяржаўнага універсітэта.**
**Вячаслаў РАГОЙША,**
**намеснік дырэктара Нацыянальнага навукова-асветнага цэнтра імя Ф. Скарыны.**

Марыя ПАНКОВА

# КУФЭРАК ПАМЯЦІ

ПРЫЕХАЛА з радзіннага кутка, са Шклоўшчыны, дзе даўным-даўно не была, і доўга не магла ўзяцца за пяро. Нешта невыказна-шчымлівае сціснула сэрца, не пускала словы. Радзінны куток... Тут ты яшчэ жывеш нейкім сваім карэньчыкам—у магілах бацькоў, сваякоў, добрых суседзяў, тут яшчэ ёсць ты—у душах бабуль і дзядоў. І калі я паласкала кашулькі дачушкі ва ўсіх на вачах, і калі мыла свежанакапаную бульбу пад тугім струменем вады, калі разам з дзецьмі сустракала кароў з лугу, ішла на ферму разам са сваёй малой, каб паглядзець, якія змены тут адбыліся пакуль мяне не было, калі позним вечарам сядзела разам з вясковымі бабулямі, цёткамі на лаўцы пры хаце—я была з імі, а яны—былі са мной, мае землякі-вяскоўцы, і дзяліліся са мной усім, чым маглі. Што ж тады так вярэдзіць душу? Мо тое, што павазіла мяне на сваёй машыне старшыня калгаса імя Дзяржынскага Валянціна Аляксандраўна Саўкіна па палях родных і, урэшце, сваімі вачамі ўбачыла я радзіму такой, як ёсць,—без акрас: многа напаўвымерлых вёсак, ад сядзіб, котлішчаў якіх засталіся толькі здзічэлыя яблыні, слівы ды грушы?.. Мо тое, што пацішэла вёска, мала-мала хто тут застаўся з тых ранейшых, моцных і здаровых людзей, што цяплілі і грэлі сабой гэты любы кут? А мо яшчэ нешта большае, што раптам яскрава выступіла, праявілася, бы на фотаплёнцы, прад вачыма?

Тым спякотным летам пáдала мне на душу кожнае слова, я так блізка і балюча ўспрымала яго... Так дзіўна, гэта колькі гадоў яшчэ назад тут чулася сакавітая родная мова, цяпер жа... На мяне і на маю малую тут глядзяць як на прышэльцаў з космасу: «Як гэта ты, Маня, у горадзе жывеш, а размаўляеш не па-гарадскому? І малую выдрэсіравала так! А Бо-о, а Бо-о, як жа яна вучыцца ў цябе будзе, калі ўсе цяпер па-руску гавораць? Яна ж белай варонай у цябе будзе».

Вось так... Заслухаюцца, бывае, маім беларускім вымаўленнем, асабліва, калі я перайду на палескую гаворку, а каб самім нешта пераняць—ніякай ахвоты ў маладых. Што сталася з табою, радзіма мая? Гэта ж некалі, у гады майго дзяцінства, тут толькі зрэдзь гасцявала рускае слова. А цяпер? Якія ж дзеці бегаюць па маім Падкняжанні цяпер? Не, не такія, як мы некалі! Надзя, Зіна, Вера Рагоўскія размаўлялі ў сваім маленстве толькі па-беларуску. Цяпер жа... Масквічка Зіна даўно забылася на сваё колішняе вымаўленне, яе дзеці—Святлана і Ірына—дзяўчаты-красуні, лічаць сябе ўжо карэннымі масквічкамі... Ды гэта—Масква. А што бліжнія, што жывуць тут, каля радзіннага свайго Падкняжання—у Оршы, Шклове, Магілёве? Ды тут—яшчэ горш з моваю: ні рускай, ні беларускай. Адна трасянка, слухаць якую ніякавата адукаванаму чалавеку. Нават бабулі, услед за сваімі дзеткамі, унукамі стараюцца гаманіць па-руску... «Дзіво-осы якія!» — успляснула б рукамі мая мама, каб паднялася з магілы. Што ж сталася з табой, вёска? Калі даўно не быў тут—рэзка адчуваеш такія змены, і баліць душа ад усведамлення, колькі ж мы, беларусы, страцілі і страчваем, адцураўшыся роднага слова! А яно ж—такое пявучае, такое непаўторнае, што ніякай моваю не заменіш! Я абышла пехатою некалі многія вёскі, куткі гомельскага Палесся, была на Брэстчыне, і захапленню майму не было канца! Колькі казак-легенд, паданняў, колькі цудоўных народных песень падарыў мне гэты загадкавы край! Кожны чалавек, сустрэты мною, быў жывым героем дзівоснага апавядання пра нашу мову, культуру, быт, пра нашу, урэшце, адоранасць боскую—ад прыроды. Я цэлыя вечары, бывала, да позняе ночы слухала вясковых бабуль і дзядоў, старанна запісвала, запаміналa іх расповяды. Гэта былі такія галасы! У свой час звярнулі на іх увагу Вера Палтаран, Аляксей Пысін, Алена Васілевіч, Васіль Вітка. І я, акрыленая тымі сустрэчамі, думала выпусціць вялікую кнігу свайго Народа, і столькі было ўжо... Ды лёс распарадзіўся крута: не зберaглося, не захавалася многае з таго, што гучала ў маіх падарожных блакнотах, запісах. І нават тое, што было калісьці ўхваленым майстрамі Слова, не выдадзена. А сэрца—сэрца помніць! І з вялікім жалем успамінаю я сёння куфэрак, які дарыла мне колісь стогадовая бабуля з Нараўляншчыны. На жаль, не памятаю ўжо і яе прозвішча. У душы — толькі вобраз. Але і гэтага досыць, каб балела сэрца па яе таленце. Выпрамілася яна перада мною, адкінула ад сябе кульбу і павярнулася тварам да сонца, якое ўставала над Прыпяццю (да самага світанку з ёй гаманілі мы, забыўшы на ўсё і ўсіх):

— І тут во, донька, на гэтым месцейку, на гэткім світанку крашоны свет перада мною адкрыўся! Якая дзеўка не хоча замуж за любага! І я за свайго хлопчыка хацела! І думала-гадала, калі ж ён за руку мяне павядзе па сваіх сцежачках, калі хатку сваю пабудуе. І вот жа бывае ў жыцці! Стаю я, ета, думаю аб ім, а тут, адкуль ні вазьміся, хвалямі куфэрак да маіх ног прыбіла. Гляджу—і вачам не веру. Узяла яго, расчыніла, а там—мама родна, свеце любы—такое плацце для нявехны! Белае-белае, як з аблок сшытае, пацеркамі аздобленае! А які вяночак! А туфлікі—ну, каралеўскія, царскія туфлікі. Прымерала я — якраз на маю нагу, як на заказ робленыя! Прыціснула да грудзей сукню, уздзела туфлікі ды як запяю-запяю — свет-перасвет, усё сяло разбудзілася, выйшла на бераг ды слухае, ці то звар'яцела я, ці то ад шчасця так... І Іванка там мой стаяў, слухаў. Як глянула я на яго—усё й зразумела! Ён, ён гэты куфэрак кінуў на хвалі, каб прыбіла да ног маіх... З той пары шмат вятроў прагуло над намі, многа хваляў прыбіла і адбіла ад сэрцаў нашых, а вось тая хваля—назаўжды ў душы засталася. Даўно няма Іванкі, а куфэрак яго—жыве. Адкіну вечка—запяю зноў...

Не, не такой моваю перадаю я тое, што гучыць ва мне. Тая, запісаная, страчана. Як і той куфэрак, які з такой любасцю, у знак удзячнасці, што яе слухаюць, паважаюць, падарыла раптам мне тая бабуля! Каб вечна помніла...



Фота Аляксея МАЦЮША.

Зараз, успамінаючы з жалем гэта, думаю: ці не так кожны з нас, хто, здаецца, любіў і шанаваў роднае, нешта не збярог, не данёс да сваіх нашчадкаў? Не данёс — значыць, абядніў не толькі сябе, але і працяг свой... Дакор, які нічым не аблегчыць, які—назаўжды болем у душы. І пытанне, пастаянна звернутае да сябе: што мы ўсе сёння робім, каб вольна і прыгожа жыць, высока несці імя Беларуса па Зямлі?

Слухаю пасяджэнне дзесятай сесіі нашага Вярхоўнага Савета, слухаю некаторых дэпутатаў і дзіву даюся: аб чым вы, браточкі? Ад сябе саміх адракаецеся? Аб якім дзяржаўным узаконенні двухмоўя ідзе гамонка? Якога ж жалю вартыя мы, беларусы, калі зноў дапусцім, каб нішчылася і далей наша нацыянальнае багацце — Мова?!

Але ўсё роўна жыве надзея на лепшы заўтрашні дзень: чую я светлае слова таленавітага сына свайго народа—дэпутата Вярхоўнага Савета паэта Ніла Сымонавіча Гілевіча. Светлае—таму што ён да канца змагаецца за нас, беларусаў, каб мы і нашы дзеці жылі на сваёй зямлі гаспадарамі свайго лёсу. Толькі адна мова—беларуская!—павінна быць на Беларусі дзяржаўнаю! Толькі адна, дадзеная нам нашымі прадзедамі, бацькамі, мацяркамі нашымі! Мы не адымаем рускае ў рускіх, мы не адымаем украінскае ва ўкраінцаў, мы не адымаем ад палякаў польскае. Калі ласка, жывіце, размаўляйце, не губляйце сваіх каранёў, але паважайце і нас, у каго цячэ ў жылах кроў гэтай зямлі! Дайце нам, урэшце, выпрастаць плечы, дайце магчымасць, каб жыла, не памірала наша Песня!

Разумею, як нялёгка шаноўнаму Нілу Сымонавічу выходзіць на трыбуну парламента з такімі прамовамі, але, тым не менш, яны маюць плён. Паглядзіце, колькі ўжо па рэспубліцы адчынена беларускіх школ, колькі дзетак у садках пачалі гаманіць на роднай мове! Не ўсё яшчэ тут гладка, не ўсё тут яшчэ добра, не хапае настаўнікаў роднай мовы і літаратуры, не хапае яшчэ нечай мудрасці, каб не тармазіць гэты натуральны, жыццёва важны працэс... На жаль, я маю шмат прыкладаў гэтага. Узяць хоць бы сярэднюю школу № 49 Першамайскага раёна нашай сталіцы. Блізка каля яе я жыву, і таму, натуральна, хацела, каб мая дачка пайшла сюды вучыцца. Ну, а паколькі Закон аб мовах у нас прынятыя, спадзявалася, што і тут, пачынаючы з першага класа, загучыць беларускае слова. Але — не адчынілі тут ніводнага класа для тых, хто б хацеў, каб іхнія дзеці раслі беларусамі. «Што вы хочаце, усяго дзесяць заяў такіх паступіла ў жніўні, усяго дзесяць бацькоў пажадалі, каб навучанне было на беларускай мове!» — сказала мне дзяўчына-сакратарка, якая прымала дакументы.

— Я была б адзінаццатай,—з горыччу зазначыла я.

А колькі іх, бацькоў, яшчэ б магло быць, каб не сустракалі тут так нядобразычліва? І яшчэ. З сумам павінна зазначыць, што не вельмі і многія беларусы сумуюць, калі ім адмаўляюць у праве вучыць дзяцей роднай мове. Гэта тыя, хто, вырваўшыся з вёскі і добра ўсталяваўшыся ў сталіцы, атрымаўшы тут кватэры, штотыдзень, бадай што, ездзячы ў вёску па малачко ды бульбачку з гуркамі, адрокся ад сваёй мовы, думаючы, што тым самым яны выглядаюць перад сваімі аднавяскоўцамі больш культурнымі. Так яны выхаваны, выхаваны нашай сістэмай, нашым ладам. Не расказаць, як разанула аднойчы па сэрцы шчырасць другакласніцы гэтай 49-й школы, сяброўкі маёй дачкі Кацюшы:

— Слава Богу, я хожу в русскую школу! Мама говорила, что они бастовать будут, если заставят перейти на белорусский язык.

— Хто будзе баставаць? — запытала я.

— Моя мама и другие родители. И учителя наши...

А хто ж мама у такой «свядомай» дзяўчынкі, хто тата? Ды звычайныя людзі: мама — машыністка, тата — рабочы, абодва нарадзіліся ў вёсцы. Тое самае магу сказаць і пра іншых мамаў і татаў дома, дзе жыву. Як правіла, людзі, якія зняважліва гавораць пра беларускую мову,—былыя вяскоўцы, якія, проста скажу, высока не падняліся ад сваіх мізэрных запатрабаванняў.

Іншым часам думаю: можа быць, мы, журналісты, літаратары, мала расказваем, пішам пра тых, хто адраджае сваю мову, культуру, мала падтрымліваем тых, хто вучыць сапраўднай любові да роднага краю, выхоўвае яшчэ ў маленькіх гонар за сваю Радзіму, за свой народ? Можа, гэта сённяшні наш нялёгкі дзень загнаў нас у такі тупік, што мы, народжаныя беларусамі, не ўсе, як належыць адчуваем гэта? Можа быць... Але ці лягчэй ад таго такім, як Ніл Гілевіч, як наш слынны пісьменнік Пімен Панчанка, які заўсёды будзіў, сеяў трывогу за роднае матчына слова?

І ўсё ж, як бы мне хацелася павезці тых, хто адмятае, топча сваё нацыянальнае, у вёску Азяраны, што на Жыткаўшчыне. Стаіць там, ля Прыпяці-ракі, калгасны дзіцячы садок, які вось ужо дзевяты год узначальвае Таіса Сяргееўна Папок. Ніхто не агітаваў яе перайсці на беларускамоўнае выхаванне дзяцей, беларускае слова тут жыло яшчэ да прыняцця Закона аб мовах. Гучыць яно мілагучна і натуральна, і, што не менш важна для выхавання дзетак, — правільна, літаратурна! Я вельмі моцна здзівілася і ўразілася, помню, гэтаму: ніхто не хваліць калектыў, нідзе ён «не грыміць». Толькі ў сваім раёне, на Жыткаўшчыне, яго ведаюць як адну з самых лепшых дзіцячых устаноў раёна.

— Дык мы проста працуем, — сціпла скажа Таіса Сяргееўна і будзе ўлюбёна расказваць вам, як яны жывуць. Пакажа ўсё, што зроблена рукамі выхавацеляў і бацькоў па афармленні садка, запросіць на заняткі.

І заслухаецеся вы гаворкаю Таісы Сяргееўны, падзівіцеся яе багатай, сакавітай беларускай мове, пазайздросціце па-добраму тым бацькам, чые дзеці слухаюць штодня гэтую жанчыну, вучацца ў яе роднаму слову.

(Працяг на стар. 12).

дзей — чэсных, сумленных, працавітых, бязвінных.

Гэта і пра іх лёс можна казаць словамі Якуба Коласа:

**Эх, чаго нам не прыйшлося,**
**Браце мілыя, ужыць!**
**Колькі талентаў звялося,**
**Колькі іх і дзе ляжыць,**
**Невядомых, непрызнаных,**
**Не аплаканых нікім,**
**Толькі ў полі адспяваных**
**Ветру посвістам пустым...**

Невядомыя, непрызнаныя, нікім не аплаканыя! Ляжыце явы, мілыя браткі-беларусы, у шматлікіх Курапатах, на Калыме, у Комі, на бяскрайніх прасторах Сібіры, Запаляр'я, Казахстана...

У рускай літаратуры з'явілася шмат твораў, напісаных былымі вязнямі: «Калымскія апавяданні» В. Шаламава, «Апусканне ў цемру» А. Волкава, «Чорныя камені» А. Жыгуліна, «Круты паварот» Я. Гінзбург і, вядома, грандыёзная эпапея А. Салжаніцына «Архіпелаг ГУЛАГ». Ёсць сведчанні і беларусаў — «Мая Галгофа» Я. Бяганскай, «Дзённік» Б. Мікуліча, «Лісты да жонкі з Калымы» С. Баранавых.

Але «Споведзь» Сяргея Грахоўскага з'яўляецца буйнамаштабным творам беларускай літаратуры, у ёй больш шырока і глыбока паказаны кругі пекла. «Споведзь» — пісьменніцкі і грамадзянскі подзвіг Сяргея Грахоўскага. Гэта своеасаблівы помнік загінуўшым сябрам, калегам па пяру. Сяргей Грахоўскі, нягледзячы на паважны ўзрост, у росквіце сваіх творчых сіл. Ён многа, напружана і плённа працуе, часта выступае перад самымі рознымі аўдыторыямі, на літаратурных святах і сустрэчах, у сродках масавай інфармацыі, робіць высакародную справу па ўшанаванні памяці ахвяр таталітарнага рэжыму.

Мы перакананы: «Споведзь» Сяргея Грахоўскага заслугоўвае высокай узнагароды.

**МУЗЕЙЦЫ-КОЛАСАЎЦЫ.**

---

Па сутнасці кніга Яфімава — падрабязны дзённік духоўнага сталення савецкага — так! — інтэлігента, выхаванага высокай рыторыкай, шчыра верачага ў словы, каторыя вымушаны былі тыражаваць уладу маючыя: няпроста закрыць шлюзы, адкрытыя рэвалюцыяй і аплачаныя крывёй.

Духоўны рух аўтара-героя можна вызначыць як спуск з безжыццёвых ідэалагічных вяршыняў к «милой теплоте жизни», якая пры ўсіх ідэалогіях застаецца, на шчасце, сама сабой і з аднолькавай цяжкасцю адстойвае, аберагае сябе.

Спасибо, жизнь, за то, что
ты мой лик
ото всего большого
отвратила
и понимать негромкий
научила
подножной малой красоты
язык.

Тут, мабыць, да месца заўважыць, што рух к «милой теплоте» и «малой красоте» адбываўся ў вершах Яфімава не без беларускага ўплыву: непасрэдна, цераз пейзаж, які ва ўраджэнца стэпаў заўсёды беларускі, суразмерны чалавеку, яго жыццёвым клопатам, а таксама апасродкавана, праз беларускую паэзію. Яе Яфімаў перакладае ды крытыкуе ўжо чвэрць стагоддзя. Беларуская паэзія, калі браць у цэлым, ніколі асабліва не грашыла казённым трубадурствам; за кардоннымі, для прыліку выстаўленымі дэкарацыямі часцей бачыўся чалавек у межах звычайнага жыцця з яго вечнымі радасцямі ды турботамі.

Не выключана, што менавіта ад беларускай паэзіі шмат у Фёдара Яфімава дакладных прыкмет рэальнасці. У яго вершах шырока раскрыты дзверы побыту: куханькі, нізкія столі, лавачкі ля пад'ездаў, ліхтары, кошкі, пустыя бутэлькі — адным словам, «хрушчобы» развітога сацыялізму. Ды ў паэта няма да іх асаблівых прэтэнзій. Гэта яго свет, дадзены ў адчуваннях, другога няма і ўжо не будзе. Акрамя знешняга фону, прыкмет часу, ёсць унутраны свет з яго незлічонымі скарбамі — Пушкін і Герцэн, Баратынскі і Цютчаў, Цвятаева і Ахматава, Твардоўскі і Салжаніцын. Перад намі духоўны пейзаж «шасцідзесятніка», дапоўнены імёнамі беларускіх паэтаў — Пысіна, Стральцова, Барадуліна.

Пашырэнне рэальнасці ў вершах Яфімава за кошт бытавых дэталяў і шматлікіх падрабязнасцей свету — гэта перш за ўсё спроба ўхапіцца за штосьці бясспрэчна існуючае, існае, не атручанае слоўным, ідэалагічным дурманам. Так чалавек на стромкай скале чапляецца за нябачныя выступы і расколіны — адно б не сарвацца, адно б адчуць усім целам выратавальную шурпатасць быцця. «Звезд не хватал, но и правды не предал, а это сегодня, пожалуй, важней».

З гістарычных падзей, што сталі вызначальнымі, варта згадаць Вялікую Айчынную, крута змяніўшую лёс хлопчыка з варонежскага сяла. І таму свята перамогі — адзінае, якому ён давярае: сам быў сведкам. А для душы — месячныя ночы, дажджы і снегапады, поле, лес, луг. Заўзятыя спрэчкі з сябрамі — з разуменнем, што ісціна даражэй. І засяроджаная адзінота. Дзеля таго, каб зберагчы сябе, настаяць на сваім, уплесці сваю ноту ў шматгалоссе свету.

Чытаючы і перачытваючы вершы Яфімава, адзначаеш і без падказкі аўтара «трезвый тон и взгляд своеобычный» і зноў пераконваешся, што інтэлігентнасць — якасць яшчэ больш рэдкая, чым талент. Абвостранасць свядомасці, яснасць бачання, якія ніколі не здраджвалі паэту, у нашы дні ўжо не проста гарантыя сапраўднай карціны рэчаіснасці. Духоўны вопыт выжывання, здабыты ў таталітарнай дзяржаве — самай шчырай і паслядоўнай у сваёй дзяржаўнасці, — неабходны сёння (парадокс гісторыі!) і для выжывання ўсіх нас у дэмакратычнай. Калі нядаўна «жующий плавленный сырок» марыў аб пераменах і волі, то сёння свабодны марыць пра стабільнасць і плаўлены сырок. Але галоўнае — «всегда есть небо, есть куда смотреть, когда вокруг смотреть невыносимо».

**Валерый ЛІПНЕВІЧ.**

---

ЧЫТАЧ ДЗЕЛІЦЦА ЎРАЖАННЯМІ

# «ЗА ВЕК СВОЙ НЕДАЎГІ...»

Чытаем гэтыя радкі:

**За век свой недаўгі**
**не здолею, магчыма,**
**сплаціць я ўсе даўгі**
**табе мая Айчына.**

І мусім пагадзіцца з паэтам:

**Шапчу сабе:**
**— Сплачу,**
**бо, ведаючы мову,**
**я дзетак навучу**
**Купалаваму слову.**

Малады паэт Міхась Скобла нарадзіўся ў адным з прыгожых куткоў Беларусі — на Зэльвеншчыне (дзе паэтка-патрыётка Ларыса Геніюш абрала і апошнія хвіліны свайго жыцця і вечны спакой), у вёсцы Паляжын.

У вершы, прысвечаным памяці Ларысы Геніюш, Міхась Скобла піша:

**— Людзі!**
**Я — вораг народу.**
**Не гаварэце са мною.**
**Зэльвенцы, мне ўзнагарода —**
**ваша нязгода з маною.**
**Жарты вясёлыя, досціп**
**іншай счакаюць нагоды.**
**Вас не паклічу я ў госці,**
**нельга —**
**я — вораг народу.**

Вучыўся будучы дэсантнік і паэт у Дзярэчынскай сярэдняй школе, а сама зямля гэтага мястэчка як быццам жыла дзіўнай гісторыяй, былой сваёй прыгажосцю. У Дзярэчыне ў свой час знаходзіўся «Малы Версаль» — палацава-паркавы ансамбль плошчай 18 га. Ён быў тады з трох тэрас, дзе былі і вялікія штучныя вадаёмы, і дзівосныя каштанавыя алеі... А ў самім палацы калісьці дзейнічаў славуты тэатр Сапегаў, праводзіліся касцюміраваныя балі, былі бібліятэка, вялікая калекцыя каштоўнасцей, збор жывапісу... Ды ў часы школьніцтва М. Скоблы гэтага ўжо не было, усё яшчэ раней сплыло ў нябыт. А што засталося? «Касцёл у Дзярэчыне» — так завецца адзін з яго вершаў.

**На ўскрайку сяло хаатычна**
**ва ўсе распаўзлося бакі,**
**а ён прыгажосцю гатычнай**
**стартуе ў высокі блакіт.**
**Расчынены сонцу, узнёслы,**
**відзён з навакольных дарог,**
**нібыта, сабраўшыся ў космас,**
**з зямлёй развітацца не змог.**

Але малады паэт не замыкаецца рамкамі толькі свайго роднага кутка, таму і зачароўвае нас яго верш «Жаўрукі Паўлюка Багрыма»:

**...а песня згарэла ў горле,**
**і попелам жыцьме дух,**
**пакуль у засмяглым горне**
**жар-птушкай агонь не стух.**
**Ад болю, што ўпіўся ў грудзі,**
**замовы няма святой.**
**— Я выкую песню, людзі,**
**заміж перарванай, той!**

Міхась Скобла выбраў для сябе не самы прэстыжны ў тыя часы факультэт БДУ імя У. Леніна — філалагічны, дзе прымаў самы актыўны ўдзел у літаратурным згуртаванні і друкаваўся пaціхеньку (але адметна!) у розных калектыўных зборніках: «Краю мой Нёман», «Маладыя галасы», «Вусны», «Дзень паэзіі» ды ў часопісах і газетах, выдае ў бібліятэцы вядомага часопіса «Маладосць» першую сваю кнігу «Вечны зніч», якая хутка знікла з паліц кіёскаў «Саюздруку». У гэтым зборніку, які рэдагавалі паэты А. Грачанікаў і К. Камейша, маю ўвагу прыцягнулі наступныя радкі:

**Бацька прыйшоў.**
**На парозе прысеў,**
**з працы нібыта вярнуўся**
**дахаты.**
**— Што ж ты адрокся, сынок,**
**як і ўсе?**
**Што ж не адведаеш таты?**

А ёсць яшчэ ў паэта «Песня апошняга яцвяга», «Балада-Рэквіем. 1864 год», «Паэты», «Юдава поле», «Ахвяра», «Вечар», «Завея», «Дзяўчына», «Славянскі боль», «Начны дэсант», «Балада аб запозненым лісце» і іншыя, якія трывожаць нашы сэрцы і душы, прымушаюць думаць аб лёсе сваёй Радзімы, завуць рабіцца ўсіх нас дабрэйшымі і прыгажэйшымі.

**Міхась МАЛІНОЎСКІ.**

г. Баранавічы.

---

# З прагай вышыні

Перш чым азнаёміцца з вершамі новага зборніка «Марафон» Уладзіміра Мазго, прачытаў яго першую кніжачку «Пад спеў крыніц», якая выйшла з друку дзесяць гадоў назад. Якія светлыя і чыстыя, па-юнацку шчырыя былі там радкі. Яны запомніліся.

За гэты дзесяцігадовы шлях паэт Уладзімір Мазго выдаў тры зборнічкі лірыкі. «Пад спеў крыніц» — яго дэбют, пасля была «Вершаліна» (1987), затым дзіцячая кніжачка «Калі спрачаюцца маланкі» (1989) і вось — «Марафон». Для трыццацітрохгадовага літаратара, здаецца, творчы ўмалот нядрэнны.

Адразу скажу, што назва паэтычнай кніжкі мне не спадабалася. Незнаёмаму чытачу падумаецца, што «Марафон» — гэта спартыўная метадычка. Тым больш, што назвы вершаў так і просяцца на вокладку: «Вільготны след расы», «Крыло хаты», «Мой вечны лес», «Святло далёкіх вокан», «Зорны парасон»... Думаецца, што любая з іх падышла б да назвы гэтай паэтычнай кніжкі. А склалі яе вершы і паэма «Амазонка». Што датычыцца твора «Амазонка» — цяжка назваць яго паэмай. Паэма — гэта ўсё ж вялікі вершаваны твор, у якім значныя праблемы рэчаіснасці раскрываюцца адначасова эпічнымі і лірычнымі сродкамі.

У новы зборнік Уладзіміра Мазго ўвайшлі вершы разнастайнай тэматыкі, але больш з іх прывезена з розных куткоў былой вялікай краіны: «На Рыцы», «У Юрмале», «Турайдскі замак», «Ля Гагры» і іншыя. Але дзе б паэт ні быў, пра што б ні пісаў, у кожным ягоным зборніку ёсць вершы пра родную Зэльвеншчыну, пра сваіх землякоў.

**Знаёмыя твары сяброў,**
**Прыветныя ўсмешкі.**
**На ўзмежку**
**Вячыстых бароў —**
**Бярэжкі.**
**Дзе рэха**
**Канала ў журбе**
**Капежнай,**
**Ці не прысніўся**
**Табе?**
**— Канешне...**
**Варушыцца**
**Зноў напамін**
**Хваляй...**
**З табою,**
**Дзе сёння адзін,**
**Стаялі...**

У шчырых, кранальных вобразах увасоблены паэтам успамін аб вясковым маленстве і студэнцкім жыцці. Ён імкнецца раскрыць складанасць узаемаадносін чалавека з навакольным светам, прагу глыбокіх і чыстых пачуццяў. З вялікай цікавасцю чытаюцца вершы «Дыялог са страхагентам», «Так многа год сплыло...», «Дэзактывацыя», «Сляды», «Жанчыне дадзена радзіць...» і іншыя.

Ёсць у зборніку «Марафон» і мініяцюры. Да гэтай формы У. Мазго звяртаецца ўпершыню. Яны, лічу, удаліся:

**Вы чуеце,**
**Як варушыцца цішыня,**
**Замураваная ў каменных**
**сценах**
**Нясвіжа або Сігулды?..**

Адно засмучае, што вельмі шмат у зборніку слоў «ціша», «цішыня», «ціш». Пры чытанні вершаў яны проста надакучваюць: «ціша галасіла», «ні майскі гром у цішы», «дрэмле цішыня», «такая сёння ціша», «раннем спуджаную ціш», «як стэпавая ціша», «у далях ціш», «такая ціш — да нематы» і г. д.

Увогуле вершы Уладзіміра Мазго мне імпануюць сваёй канкрэтнасцю, лёгкасцю, пры чытанні іх уяўляецца малюнак, які вершаванымі радкамі стварае паэт.

Два добрыя вершы — «Паэт» і «Душою ўсе мы — паэты!..» — знаходзяцца ў зборніку побач. У адным з іх Уладзімір Мазго сказаў:

**А талент?..**
**Талент даражэй,**
**Што дадзен Богам.**
**Паэт павінен**
**Быць вышэй**
**Сябе самога.**

Гэтай вышыні і хочацца пажадаць у жыцці і творчасці аўтару «Марафона».

**Сяргей ЧЫГРЫН.**

г. Слонім.

**Артур ВОЛЬСКІ**



## Воля

А волі
не бывае ўволю.
Яе дасхочу не бывае.
Як каласок на мінным полі,
яна паволі
выспявае.

Хоць міны маюць скрытны нораў
і смерць хаваюць неўпрыкметку,
я сам іду да тых мінёраў,
што іх карчуюць на палетку.

Калі ж і мне
ступіць на міну
наканавана на вяку,
я не памру,
я не загіну,
прарошчу ў новым каласку.

Адно прашу,
Вялікі Божа,—
і гэта ўсцешыла мяне б,—
каб воля выспела,
як збожжа,
з якое наш надзённы хлеб.

## Знаходжанне веры

Не трызню я.
Не звар'яцеў.
У цемры золак выспявае.
А да мяне
анёл зляцеў.
і прамаўляе,
як спявае:

— Ты верыў!
— Верыў...
— Але ў што!
Ці ёсць між д'яблаў дабрадзеі!
Ператварыліся ў нішто
твае нядаўнія надзеі.

Парві!
Парві!
Хутчэй парві
з паганскай верай.
Здзек і сорам
на чарапах ды на крыві
узводзіць
шчасця светлы хорам!..

Я запытаўся:
— Што ж рабіць!
Як змыць з душы бязвер'я пляму!

— Сумленне зманам не губіць
і шлях шукаць.
— Куды!
— Да храму!

Так прапяяў і знік анёл.
Сплывае ноч з ружовых схілаў.
З таполяў падае на дол
бязважкі пух.
А можа, — з крылаў!

●

Я верыў падступнай і хцівай хімеры.
За праўду прымаў неадумна яе.
І справы я ёй давяраў і намеры
і самыя светлыя мары свае.

Ды з веры тае
ў маім сэрцы — нічога.
І рэшткаў апошніх яе не нашу.
Праменьчык нябачнага Духу Святога
адвечнаю праўдаю поўніць душу.

Да неба пагляд мой цяпер скіраваны.
З чысцюткага ўсё пачынаю ліста.
Мне бачацца ў золку
пякучыя раны,
гаючыя раны Ісуса Хрыста.

●

ЛАРЫСЕ

...А раптам у сілу ўбярэцца пачвара
і зноў залютуе на Белай Русі!
Як выпадзе ейнаю стаць мне ахвярай,
не плач.
У яе за мяне не прасі.
Пайду на Галгофу.

Без стогну.
Без крыку.
І зернеткам лягу ў святое сяўбе.
Адно б я хацеў —
як Хрыстос Вераніку,
апошнім паглядам суцешыць цябе.

**Хведар ЖЫЧКА**

## «МЫ ЦЯПЕР БЛІЖЭЙ ДА ПРАЎДЫ...»



## Ля пелькі

Зноў нічога ў нас не атрымаецца,
як нядаўна — з кукурузай той.
Зноў усё не клеіцца, зрываецца,
і адразу плесняй пакрываецца,
едкай раз'ядаецца іржой.

Бурныя гады перабудовы
навучылі аднаму — ламаць:
разбурылі дом свой да асновы,
новага ж няма з чаго складаць.

Выдумляе мройныя дактрыны
пераніцаваны «апарат».
...З кошыкам пустым ідзём на рынак
і з пустым вяртаемся назад.

Родны край! Бацькоўская зямелька!
Плач наўзрыд і не саромся слёз!
Падштурхнуў — каторы раз! — да пелькі
зноў цябе твой нешчаслівы лёс.

## Калісьці я кірмаш любіў

*(З АНГЛІЙСКАЙ)*

Калісьці я кірмаш любіў.
Глядзіш вакол, бывала,—
чаго б там толькі ні купіў,
ды грошай не ставала.

А сёння ў іншай мы бядзе:
хоць грошы і вядуцца,
ды дзе прысмакі, скорам! Дзе
прадукты прадаюцца!

## Вёска Папкі

Рыгору ШКРАБУ

Вёска Папкі — не заморскае дзіва,
вёска Папкі — майго бацькі радзіма.
Ды вёскі Папкі не шукайце на карце,
дарогі ў Папкі вы ў людзей не пытайце,

# КЛІЧ БАЦЬКАЎШЧЫНЫ

**Яўген КУРТО**



**Апавяданне**

ПАВЕЛ, ЯК ЗАЎСЁДЫ, прачнуўся ў шэсць. Зашыпеў, прачышчаючы глотку, бязладна заблямкаў надакучлівымі курантамі дынамік, хаця рэспубліка ўжо каля года таму аб'явіла сябе незалежнай і магла б прыдумаць для пазыўных нешта сваё. Дык не — усё едзе па старой наезджанай каляіне: от зараз прагучыць «Союз нерушимый республик свободных...», а ўжо пасля ўласнае сачыненне, як беларусы з братняю Руссю разам шукалі к шчасцю дарог... Падумалася: чаму толькі з Руссю, нашае культуры ні кропелькі не бяднейшая, чым у таго ж Цэнтра, а ў тым-сім нават намнога пераўзыходзіць яе, але ў апошнюю хвіліну перадумаў, бо разумеў, што нічога гэтаму чыгунналобаму дагматыку ўсё адно не дакажаш, і адказаў адзінай рэплікай:

— Што б вы ні казалі, паважаны Кандрат Арцёмавіч, а я іду на пенсію з лёгкім сэрцам, бо ўсю работу і не капіраваў, і не калькіраваў, а толькі ўласнае ствараў...

Колькі ж гэта ён не быў ужо ў сваіх Бушавічах? Ну, канечне, цэлых восем гадоў. Ганьба! Сын, называецца. Брат.

Зараз жа, не марудзячы ні хвіліны, ён едзе на аўтавакзал і першым аўтобусам адпраўляецца на бацькаўшчыну. Балазе, збірацца, аббягаць пустыя магазіны ў пошуках падарункаў не трэба — ніхто і нічога ўжо ад яго там не чакае, зрэшты як і яго самога. Наведае родныя магілы, пакладзе кветкі, пастаіць і — начным аўтобусам назад, дадому. Кветкі лепш купіць тут, на месцы, у

а не з Літвой, з якой стагоддзямі жылі пад адным гербам, або з Украінай, з народамі якой гаворым амаль адной моваю? Дык усё Расея ды Расея. Масковія. А Масковія ж некалісь, расказваў маломў Паўлу айчым, настаўнік гісторыі, выразала ўсю Полаччыну, сплаўляючы трупы гараджан уніз па Дзвіне...

Айчыма даўно ўжо няма ў жывых, згарэў ад сухотаў яшчэ да вайны, а вечаровыя расповяды яго пра страшныя гістарычныя катаклізмы запалі ў душу маленькага Паўліка, запомніліся на ўсё жыццё...

Незадаволена прыпыніў бег змрочных думак, нахлынуўшых з самага ранку. Ад чаго б гэта? Ад блямкання курантаў? Дык жа раней яно не выклікала асаблівага пратэсту, хаця і раздражняла. Тут нешта другое з'явілася прычынай нараджэння абуранасці. Бой курантаў — гэта, канечне ж, повад. А прычына? Ну, ну, успомні, шаноўны архітэктар. Паднатужся. Ты ж яшчэ нядаўна пахваляўся сваёй выключнай памяццю...

Ага, нарэшце... Учора ўвечары...

«— Вы, Павел Федорович, неисправимый националист, — як наяву раптам прагучаў у вушах голас апошняга кіраўніка архітэктурных майстэрняў, нядаўняга работніка ЦК партыі.— Все присланные проекты на белорусскую колодку натягиваете... Как будто в Центре глупее нас сидят люди...»

І гэта прагучала на ўрачыстым сходзе з поваду адпраўкі яго, Паўла, на «заслужаны адпачынак». Намерыўся быў запярэчыць, што ні к чаму нам танцаваць пад чужую дудку, бо гісторыя

Сябры па працы адзначылі трапны адказ калегі дружнымі воплескамі і нават крыкамі: «Брава, Паша!..» А начальніку нічога не заставалася, як уручыць юбіляру-пенсіянеру чырвоную папку са стандартным бланкам «За шматгадовую, бездакорную...» і канвертам, у якім ляжала прэмія — месячны заробак ст. архітэктара — 240 рэ.

Павел спусціў ногі з ложка, намацаў тапкі, устаў, пацягнуўся. Яшчэ ўчора бег бы адразу на кухню, каб закіпяціць чайнік, потым — з ходу — пад душ... А зараз — нікуды спяшацца не трэба. Можна ўсе ранішнія працэдуры выконваць у запаволеным тэмпе. Ніхто яго ўжо не чакае ў даўжэзным, застаўленым кульманамі пакоі, ніхто не падыдзе параіцца, не скажа, каб зняў трубку паралельнага тэлефона... З сённяшняга дня і ўжо да канца жыццёвай дарогі поўная свабода і ніякіх сур'ёзных абавязкаў, апроч як заплаціць за кватэру ды раз у месяц наведаць пошту і распісацца там у атрыманні 120 рэ, якія дзяржава кінула яму за саракагадовую «...бездакорную...»

Насценны адрыўны каляндар паказваў сярэдзіну першага асенняга месяца. У гэты дзень дзесяць гадоў назад Павел засыпаў на местачковых могілках трыццацівасьмігадовага зводнага брата Жоржа. Адгукнуліся гены Жоржавага бацькі—той таксама памёр, не дацягнуўшы двух гадоў да сарака і таксама ад хваробы лёгкіх. Праз шэсць гадоў апасля брата пахаваў побач і маці. З таго часу ні разу не наведаў родныя магілы.

цётак, што з ранку да вечара прадаюць свой ходкі тавар проста на пасадачнай пляцоўцы. Бо ў мястэчку ўжо не купіш — там вяргіні даўно адцвілі, а іншых кветак у Бушавічах не разводзяць.

Паўлу пашанцавала. Ён паспеў узяць білет на аўтобус, які адыходзіў літаральна праз пяць хвілін. У салоне прайшоўся ўважлівым позіркам па тварах пасажыраў. Хоць бы адзін знаёмы! А ўсе ж землякі, бушавіцкія. Меў рацыю парторг майстэрняў, калі дарэчы і недарэчы на кожнай лятучцы сцвярджаў: «Нельзя отрываться от народа», у дадзеным выпадку — ад мясцін, дзе радзіўся. Адарваў пупавіну, што звязвала цябе з бацькаўшчынай, і ты ўжо як бы не яе сын, а так — перакаці-поле.

Сусед па сядзенні трапіўся — лепшага Павел і пажадаць не мог — маўклівы, увесь паглыблены ў неадрыўнае сузіранне прабягаючых міма маляўнічых пейзажаў. Адзін толькі раз за ўсю дарогу ветліва патурбаваў, каб выйсці размяцца. А трапілася б якая цікаўная кабеціна, дагала раздзела б сваімі што, ды куды, ды за чым, ды да каго... Было Паўлу падобнае не раз падчас працяглых службовых камандзіровак. І ён стамляўся тады ад гэтых нахабна-спачувальна-ветлівых роспытаў больш, чым ад самой дарогі. А тут пашанцавала ў гэтых адносінах нязмерна.

Калі выйшаў з аўтобуса, яго адразу ахінула ціхай ласкай сонечная цеплыня. Мястэчка нібы драмала. На трох вуліцах, што разбягаліся ад плошчы, на якой размясцілася аўтастанцыя, не было відаць ні людзей, ні машын. Ну машын, само сабой зразумела — было тут не

адкажуць:
— Не ведаем вёскі такой мы...
Хоць вёска стаіць ля Дняпроўскае поймы,
а назву сваю гэтак часта змяняла,
што невідзімкай нібыта ўжо стала.
...Слова «Папкі» патыхала старызнай,
не спалучалася з сацыялізмам.
І загадаў нейкі «мудры» начальнік
вёску назваць назвай новай, сучаснай:
— Каб сонца над ёю не засцілі хмары,
няхай называецца — «вёска Бухарын»...
У вёску Бухарын у тыя гады
прыехаў настаўнік, хлапец малады —
Шкраба Міхась; добра дзетак вучыў...
Ды прымчаў «воран чорны» ўначы,
шкрабнула Шкрабу Яжова рука —
на Калыме след прапаў бедака...
А хутка й Бухарын касцьмі загрымеў...
Зноў у Папках нейкі Туз аж шалеў:
— Апартуністы адны тут жывуць,
імем трацкіста вёску завуць;
Жданаў у Сталіна — свой чалавек,
«Жданаў» — вось назва вёсцы навек.
«Жданаў дык Жданаў»,— стаяць мужыкі...
Яшчэ адну назву займелі Папкі.

А потым і Жданава сталі «скланяць» —
зноўку Папкам трэба назву мяняць.
Новы начальнік сказаў мужыкам:
— Навошта чапляцца за прозвішчы вам!

Бачыце ж самі: і Сталін — не бос,
учора быў «бацькам», а сёння — барбос...

На свеце слоў многа, вазьміце хаця б
і назавіце: вёска Акцябр.
Добра параіў — жылі ў Акцябры
і дажылі да навейшай зары:
акцябрская эра сплывае ў нябыт,
а людзі не вераць, што «мы — не рабы»,
не вераць ні ў сёння, ні ў заўтрашні дзень,
што нехта да шчасця іх прывядзе...

Адно зразумела: прыйшоў час такі —
вярнуць трэба вёсцы назву ПАПКІ!

# Малітва

Уратуй нас, Божа,
ад красамоўных прамоўцаў,
якія абяцаюць нам волю,
а куюць кайданы!

Уратуй нас, Божа,
ад мудрых правадыроў,
якія вядуць нас да шчасця,
а прыводзяць у краіну жабрацтва!

Дай нам, Божа,
веру ў Твой заўтрашні дзень,
у Тваю літасць,
Тваю справядлівасць
і Тваю дабрыню!

●

Я не хачу, каб спела помста
ў маіх грудзях, як горкі плод.

Счарсцвець душою — гэта ж проста,
калі жыццё тваё — не мёд,

калі няма ва ўлады ладу,
няма парадку на зямлі...

А мы ж цяпер — бліжэй да праўды,
бліжэй да Бога, чым былі.

Няхай ён, Бог, яшчэ высока,
ды думка да яго ляціць.

І д'яблу сёння ўжо не лёгка
душу збалелую купіць.

так ужо багата — не двухмільённая сталіца, а ўсяго толькі маленькі цэнтр сельсавета. А людзі — яны пэўна корпаюцца на сваіх гаспадарках, дзятва ж у гэты час — у школе. Цікава, якую цяпер школу і на якім месцы адбудавалі? Даваенную, драўляную двухпавярхоўку (да рэвалюцыі царкоўна-прыходскае вучылішча), якую канчаў некалі Павел, у вайну спалілі як быццам бы партызаны, каб перашкодзіць паліцаям распалажыцца там гарнізонам. А можа, і не яны зусім. Але хто б ні спаліў, усё роўна шкада. Ва ўсёй акрузе такога прыгожага будынка не было, хіба толькі царква ў суседнім Божыне.

Павел скіраваў на знаёмую да апошняй брамкі Лысагорскую вуліцу, па якой некалі бегаў у школу. Гэта была адзіная брукаванка ў мястэчку, бо вяла да шашы, па якой зрэдку наязджала раённае начальства. І сельсаветчыкі ва ўгоду яму пастараліся зрабіць Лысагорскую ўзорнай, хаця дзве астатнія вуліцы — Ганацкая і Матылянская — у слотныя дні захлыналіся ад непралазнай гразі. Зараз брук хаваўся пад асфальтам. Пакрыты былі асфальтам і колішнія вузкія дашчаныя тратуары. Адно не змянілася — гэта прысады. Таўшчэзныя ліпы, ясені, клёны хаця і састарэлі, парэпаліся, але ўсё яшчэ стаялі моцна, надзейна. І як толькі іх ніякі ліхадзей не крануў, не зваліў, як знішчыў тую ж ні ў чым невінаватую школу альбо млын на Кляве... Млын, праўда, быў спалены не ноччу ўпотайкі, як школа, а днём прылюдна, калі наведаліся ў Бушавічы карнікі з кароткім візітам: сказалі, каб партызанам не было дзе хлеб малоць.

А вунь ужо ў вузкім прасвеце між прысад відаць і Лысая гара з густа застаўленым крыжамі паўднёвым схілам. Старыя могілкі каля царквы закрылі яшчэ ў саракавым.

Напрыканцы вуліцы з'явілася жанчына ў доўгай цёмнай сукенцы з дзвюма вёдрамі на каромысле. Яна ўжо намерылася перайсці вуліцу, каб набраць з калодзежа на другім баку вады, але ўбачыла чалавека і затрымалася ў чаканні, пакуль той пройдзе міма. Пераходзіць чалавеку дарогу з пустым прыроўнівалася ў мястэчку да адкрытага злачынства. Праходзячы каля жанчыны, Павел кінуў свой «дзень добры», крыху прыцішыў крок у слабым спадзяванні, што можа пазнае, але не, не пазнаў, і пайшоў далей. На самым выхадзе з мястэчка азірнуўся: жанчына ўсё стаяла на ранейшым месцы і глядзела ў яго бок. Магчыма, пазнала: жыў жа тут колькі гадоў, вучыўся з пятага аж па дзесяты клас, пакуль не з'ехаў у політэхнічны інстытут, а тады было — гарадское падполле, партызанка, зноў інстытут. Дома толькі і з'яўляўся, што на пахаванне родных. Усіх з часам перазабыў: і нямногіх блізкіх таварышаў і падружак, з якімі пасля полькі-трасухі ў згарэлай пазней царкве-клубе выбягаў «прахаладацца» паглыбей на старыя могілкі. Што ж, было такое, было. Цяпер ужо далёкае, незваротнае. Можа, і гэтая вось з пацямнелым ад перажытых гадоў тварам адна з тых самых духмяных кветачак яго юнацтва. Можа, угадала ў ім, сівагрывым, з цяжкаватай паходкай мужчыне колішняга нястомнага скакуна ды настырнага прыставалу і зараз, як і ён, з журбой успамінае хоць і пакалечанае вайной, але такое светлае юнацтва.

«Буду вяртацца назад, зайду як бы вады напіцца, — рашыў Павел.—Цікава, усё-такі, хто яна. Бо пазнала безумоўна».

За гады, што мінулі ад апошняга прыезду ў Бушавічы, кончае прыстанішча местачкоўцаў прыкметна расшырылася. Пабольшала на ім як простых крыжоў, так і разнастайных помнікаў-абеліскаў. Павел нават не адразу знайшоў магілы маці і брата. Пакуль хадзіў у пошуках, прачытаў не адно да болю знаёмае прозвішча на крыжах і помніках. У галаву прыйшла невясёлая думка: на вуліцы ўжо столькі не сустрэць знаёмых. Ніколі.

Магілы родных не выглядалі асабліва запушчанымі, калі параўноўваць з суседнімі. Ні чарнобыля на іх, ні ўзбуялай крапівы. От толькі травой занадта ўжо параслі, аж бяссмертнікаў не відаць. Добра, што прыхапіў з сабой унуччыны прычындалы — дзіцячыя матыку і грабелькі. З дапамогай такога інвентара да вечара навядзе парадак. А помнікі і агароджа зусім не патрабуюць падновы — ні фарба на прутах не аблезла, ні штучны граніт не патрэскаўся. Толькі от надпісы крышку пацямнелі, трэба асвяжыць — добра, што не забыўся ўзяць слоік разведзенай бронзы.

Калі, ускінуўшы на агароджу плашч ды пінжак, распачаў генеральную прыборку, ззаду пачуўся шорхат жарствы. Азірнуўся і ўбачыў усё тую ж жанчыну, што праводзіла яго поглядам, калі кіраваўся сюды.

— Давай памагу, Паўлік, аднаму нязручна неяк,— гарэзліва ўсміхнулася.— Памагу, хаця і пакрыўдзіў мяне, не захацеў прызнаць...

Гэта гарэзлівая, не па ўзросту маладая ўсмешка нібы завесу з памяці сарвала:

— Тамара! Томік!..— усёй істотай радасна пацягнуўся да жанчыны.— Дай я цябе расцалую. Магла ж, чартоўка, адразу спыніць...

— Магла, бо пазнала адразу, шчэ здаля. Ды ты зірнуў на мяне, як на слуп прыдарожны, і... міма. Крыўдна зрабілася. А тады зразумела — не пазнаў. Старая зрабілася, дзе што падзявалася...

— А я што, памаладзеў? Аднагодкі ж...

— І ты, даруй, струхлеў... Ды толькі баба, яна, Паўлічак, усё жыццё першую любоў помніць, не тое, што вы, матылі пералётныя, з адной кветачкі не паспеў зляцець і адразу да другой...

Павел адчуў, што твар яго залівае чырвань.

— Не трэба, Паўлік. Я на цябе не ў крыўдзе. І замуж добра выйшла, і дзетак слаўных вырасціла, у людзі вывела. Усё ў мяне ладненька.

— А муж?

— Рана памёр мой Васілёк. Увесь пабіты з вайны вярнуўся. Адной давялося дзетак падымаць. Ды што цяпер успамінаць? Нічога не вернеш. Давай во памагаць буду. Кажы, што рабіць...

Удваіх усю работу зрабілі за якую гадзіну. Затым Тамара прынесла з лагчыны пад гарой, дзе бруілася крынічка, вядзерца вады, і яны селі памянуць нябожчыкаў. У Паўлавай біклазе была «Пшанічная», і ён шчодра папырскаў ёю адно падножжа помніка, потым другое, а ўжо тады наліў у гранёныя стопкі Тамары і сабе. Такі быў тутэйшы рытуал.

Закусвалі няспешна, без прагнасці, як і належыць на памінальным абедзе, хаця паспеў-такі добра прагаладацца. Пасля трэцяй, апошняй чаркі моўчкі падняліся, Павел склаў у сумку ўсё, што прывёз з сабой, ускінуў рамень сумкі на плячо, вільготнымі вачыма доўга ўглядаўся ў твар Тамары, потым прытуліўся да яе, дрыготкім голасам прамовіў:

— Дзякуй табе вялікае... За дапамогу і наогул за ўсё-ўсё. За тое, што ты была, і за тое, што ёсць...

— Куды ты зараз? — спытала жанчына.— Назад, у горад?

— Назад. У горад,— рэхам адгукнуўся Павел.— Толькі папярэдне на дзедава котлішча загляну, дзе радзіўся, вучыўся хадзіць. Хоць якую хвіліну там пабуду. Цягне, разумееш...

— Разумею, Паўлік,— уздыхнула жанчына.— Я дык наогул не здолела б нідзе болей жыць, як у сваім мястэчку. Такая ўжо ў мяне парода.— Прапанавала:— Ты, можа, торбу ў мяне пакінь... Навошта цягнуць за тры вярсты? А як вернешся з хутара, забярэш.

— Бяры.— І спытаў: — Апошні рэйс на Мінск у дзесяць?

Тамара сцвярджальна кіўнула галавой.

— Значыць, часу хопіць,— і, крыху ўтуліўшы галаву ў плечы, спора пакрочыў у бок лесу, на другім баку якога, аж да праслаўтай «ліквідацыі хутарской сістэмы» ў трыццаць сёмым годзе, уздымаліся ўзведзеныя з разлікам на многія пакаленні шматлікія пабудовы дзедавай сядзібы. Ведаў, што нічога жывога там ужо даўно няма, нават апошнюю пуню, што стаяла наводшыбе, яшчэ да вайны местачкоўцы разабралі на дровы, і што нічога, акрамя непралазнага хмызняку, ён не ўбачыць... І ўсё ж ішоў і ішоў. А сэрца ад чакання прадстаячай сустрэчы з родным гняздом калацілася моцна-моцна, і слёзы, буйныя, празрыстыя, скочваліся па шчоках адна за адной, хаця ён таго зусім не заўважаў. Хацелася аднаго: хутчэй дабрацца да падмурка,— адзінага, што ўцалела ад дзедавага хутара, сесці на цёплы камень і доўга-доўга гладзіць яго...

Эх! Скінуць бы зараз гадкоў гэтак дваццаць—дваццаць пяць!.. Касцьмі лёг бы, са скуры вылузаўся, а ўзвёў бы на гэтым месцы хароміну, не горшую за дзедаву, і дажыў бы тут, як чалавек, хоць тую рэшту, што яму яшчэ наканавана Богам. І пахавалі б на ўзгорку, там, ля маці і брата...

А так... Позна, даражэнькі Павел Кузьміч...

Над лесам усё ніжэй апускалася няяркае асенняе сонца.

З ПОШТЫ «ЛіМа»

# Што адказаць студэнту?

Напісаць гэты ліст мяне падштурхнула пытанне, зададзенае адным з маіх студэнтаў пасля вечарыны, прысвечанай ушанаванню памяці рэпрэсіраваных пісьменнікаў, што адбылася ў Доме літаратара. Аднак усё па парадку. Трэба сказаць, што вечарына прайшла, як кажуць, на высокай ноце. Сцішаная зала з хваляваннем слухала ўрачыста-пранікнёнае слова яе вядучага, былога вязня С. Грахоўскага. Упершыню за столькі гадоў айцом Ігарам на роднай мове пад малітоўны спеў групы хору Беларускага праваслаўнага брацтва была адслужана паніхіда па бязвінна загінуўшых. З вялікай увагай праслухалі прысутныя мастацкае выкананне вершаў і ўрыўкаў з прозы тых, хто стаў гонарам нашай літаратуры і культуры, і тых, хто не паспеў увабрацца ў сілу, выпрастаць крылы, зломленыя жахлівай машынай таталітарнага рэжыму. Як запавет-заклік прагучаў верш Я. Купалы «Ворагам беларушчыны». Да месца прыйшліся і кранаючыя душу народныя песні ў выкананні Т. Мархель, і лірычна-ўсхваляваны спеў А. Атаманава, і выступленне піяніcткі І. Шумілінай. Завяршаючым высокім акордам прагучала выступленне вядомага і любімага нашага хору імя Цітовіча пад кіраўніцтвам сп. Дрынеўскага.

Маімі суседзямі ў зале аказалася група школьнікаў з настаўніцай, якія прыехалі на гэтую вачарыну з-пад Стоўбцаў (шкадую, што не пазнаёмілася з імі бліжэй). Я бачыла вочы гэтых хлопчыкаў і дзяўчынак: тое, што яны чулі, не пакінула іх абыякавымі. Падумалася: сапраўды, удзел, хай сабе і пасіўны, у адной такой вечарыне дасць для юнага сэрца значна болей, чым сухія ўрокі-расказы пра ахвяры сталінізму.

Развітваючыся, адзін з маіх студэнтаў спытаў: «А чаму ў зале было так мала пісьменнікаў?» А сапраўды—чаму? Думалася, прыйсці і тым самым засведчыць павагу да сваіх жа братоў па пяру —святы абавязак кожнага пісьменніка. У зале ж іх былі адзінкі. Мае студэнты адразу ўгледзелі стомленых Н. Гілевіча і А. Вярцінскага, якія і пасля чарговых дэбатаў у Вярхоўным Савеце ўсё ж не маглі не прыйсці, а таксама А. Мальдзіса, П. Прруднікава, А. Ліса, В. Чамярыцкага, У. Скарынкіна, яшчэ некалькіх чалавек. А што ж астатнія?

Даражэнькія пісьменнікі, тыя, каго мы любім, на каго з надзеяй (маю на ўвазе гаючую сілу мастацкага слова) скіраваны нашыя позіркі: падкажыце, калі ласка, што я павінна адказаць студэнту?

**Людміла ХРЫШЧАНОВІЧ,**
**выкладчыца універсітэта.**

**АД РЭДАКЦЫІ.** Падобнага зместу лісты мы атрымліваем не ўпершыню. На першы погляд, папрок у адрас членаў пісьменніцкага саюза цалкам слушны. Яны сапраўды не частыя госці на мерапрыемствах Дома літаратара. Аднак жа давайце падумаем пра тое, ДЛЯ КАГО ладзяцца там вечарыны, КАГО ёсць сэнс далучаць да беларушчыны, да прыгожага пісьменства, да культурных і фальклорных традыцый народа. Мабыць, не столькі пісьменнікаў, колькі шырокую грамадскасць—тэхнічную інтэлігенцыю, студэнцтва, школьнікаў,— усіх, хто яшчэ трымае кнігу ў руках і не страціў здольнасці духоўна ўзбагачацца і суперажываць. Ну, а пажадае прыйсці на вечар сам творца—з цікавасці ці па сяброўскім, грамадзянскім абавязку,—гэта ўжо яго асабістая справа. Патрабаваць абавязковага ўдзелу было б некарэктна і неэтычна, асабліва ў дачыненні да людзей сталага веку.

Іншая справа, калі запросяць выступіць, пачытаць вершы, падзяліцца ўспамінамі. Хаця зноў жа—не ўсе нарадзіліся прамоўцамі і не ўсе любяць публічныя выступленні...

У пытання ёсць яшчэ адзін аспект, які варта закрануць. Ён тычыцца арганізацыі і метадычнага забеспячэння літаратурных вечарын. Многія з іх ладзяцца па нейкім даўно заведзеным шаблоне, без творчай іскры, без фантазіі, пры ўдзеле адных і тых жа выступоўцаў і выканаўцаў. Ці не таму застаецца падчас паўпустой актавая зала прыгожага пісьменніцкага дома і наяўнасць гледачоў даводзіцца адпаведным чынам «падстрахоўваць»?

Напэўна, аб прэстыжы Дома літаратара нам варта паклапаціцца сумесна, каб яго шматлікія мерапрыемствы ахвотна і з карысцю для душы наведвалі і пісьменнікі і непісьменнікі.

**ІНТЭРВ'Ю Ў НУМАР**

# МУЗЫКА МЕЖАЎ НЕ ВЕДАЕ...

**Сёння адкрываецца традыцыйны фестываль «Беларуская музычная восень». Напярэдадні гэтай падзеі мы пагутарылі з мастацкім кіраўніком Беларускай дзяржаўнай філармоніі Юрыем ГІЛЬДЗЮКОМ**

**— Калі ласка, Юрый Мікалаевіч, колькі слоў пра сёлетнюю «восень».**

— Наш фестываль збярэ музыкантаў з бліжняга і дальняга замежжа. Адкрываецца ён сімфоніяй У. Кандрусевіча «Плач перапёлкі» (паводле рамана І. Чыгрынава) у выкананні Акадэмічнага сімфанічнага аркестра Беларусі; дырыжор Віктар Дуброўскі. У гэты ж вечар прагучыць і Канцэрт № 4 Л. Бетховена — саліст Джузепе Марыоці, італьянскі піяніст, які жыве ў Аўстрыі. Інтэрнацыянальная музычная культура ў культуры Беларусі — практычна кожны наш канцэрт пацвярджае гэты тэзіс. Традыцыйна ўсе беларускія калектывы ўдзельнічаюць у «восені», выступаюць па ўсёй нашай краіне. Смаленскі аркестр народных інструментаў пад кіраўніцтвам В. Дуброўскага праедзе з канцэртамі ад Брэста да Гомеля, уключаючы Чарнобыльскую зону. Дзённы канцэрт у Мінску дае сёння Святаслаў Рыхтэр. Прыедзе і знаны хор У. Мініна, які выступіць з трыма праграмамі сумесна з літоўскім дырыжорам Саўлюсам Сандэцкісам, які на гэты раз дырыжыруе малым сімфанічным аркестрам з Санкт-Пецярбурга. Мы пачуем у іх выкананні «Рэквіем» В. Моцарта, заходнееўрапейскую і рускую харавую музыку. Прыязджае ў Мінск англійскі контртэнар Вільям Тэрнер, які жыве зараз у Францыі. Ён выступіць у Вялікай зале філармоніі з нашым камерным аркестрам, а ў Малой зале ў яго будзе сольны канцэрт з удзелам камерных музыкантаў з Францыі. У рамках фестывалю пройдуць канцэрты Зураба Саткілавы з Акадэмічным аркестрам імя Жыновіча, Наталлі Герасімавай, якая будзе спяваць рамансы Ф. Шуберта і М. Глінкі (з прыемнасцю выступлю разам з нашай госцяй у якасці канцэртмайстра). Спецыяльна прылятае з Еўропы віяланчэлістка Наталля Гутман, яна дорыць нам дабрачынны канцэрт у фонд развіцця маладых талентаў (прагучаць творы Р. Шумана і К. Сен-Санса).

У рамках фестывалю, з 23 па 29 лістапада, пройдзе міжнародны конкурс маладых віяланчэлістаў. Дарэчы, Н. Гутман — ганаровы член журы конкурсу, а яго старшынёй будзе прафесар Н. Шахаўская. А 30 лістапада — закрыццё фестывалю «Беларуская музычная восень» і адначасова заканчэнне конкурсу, тады пачуем і маладых віяланчэлістаў — пераможцаў. Дырыжыраваць канцэртам будзе Ю. Цырук, які правядзе і ўсю аркестравую частку конкурсу.

**— Юрый Мікалаевіч, што чакае аматараў нацыянальнай музыкі ў гэтым сезоне?**

— Толькі што прайшоў II Міжнародны фестываль «Адраджэнне беларускай капэлы». У канцы снежня адбудзецца пленум Саюза кампазітараў Беларусі, у канцэртах якога замоўлена шмат прэм'ер. Мы заўсёды цесна супрацоўнічаем з кампазітарамі, якія пішуць для нашых калектываў. Задача філармоніі — выконваць усё лепшае, што ствараецца імі, але для гэтага трэба ісці на эксперыменты. У планах сімфанічнага аркестра 8-я сімфонія Д. Смольскага, Сімфонія А. Літвіноўскага, Канцэрт для аркестра Г. Вагнера і шэраг іншых прэм'ер. Адбудуцца юбілейныя аўтарскія канцэрты Анатоля Багатырова, Эдзі Тырманд, канцэрт, прысвечаны Васілю Залатарову і ягоным вучням (У. Алоўнікаў, А. Багатыроў, Л. Абеліёвіч, П. Падкавыраў), а таксама аўтарскія канцэрты Сяргея Картэса і Рыгора Суруса. У рабоце ў аркестра творы Л. Шлег, У. Дарохіна, В. Кузняцова, Ф. Пыталева.

**— У друкаваным праспекце «Абанементныя і канцэртныя цыклы 55-га канцэртнага сезона» я з радасцю ўбачыла шэраг імёнаў праслаўленых музыкантаў, сустрэчы з якімі стануць падзеяй у культурным жыцці рэспублікі. Дазволю сабе назваць толькі некаторых з іх: арганісты Гары Гродберг, Аляксандр Фісейскі, піяністы Таццяна Нікалаева, Леў Уласенка, Навум Штаркман, спевакі Яўген Несцярэнка, Ліна Мкртчан, харавая капэла імя М. Глінкі, Маскоўскі камерны хор, ансамбль рускай духоўнай музыкі «Благавест» і шмат-шмат іншых выканаўцаў, ад якіх проста дух перахоплівае. Якім чынам у наш неспакойны час, у нашай эканамічнай сітуацыі філармоніі ўдалося скласці такі ўражлівы план гастрольных падзей?..**

— У многім гэта стала магчымым дзякуючы пастаянным кантактам з выдатнымі музыкантамі. Для многіх з іх мінская публіка стала любімай, і яны помняць і любяць наш горад, згаджаюцца зноў і зноў прыязджаць да нас. Гэта і С. Рыхтэр, і М. Пятроў, і Л. Мкртчан, і У. Мінін. І Марыя Гулегіна, якая абяцала прыехаць вясной з канцэртам. Сталыя сувязі, дружба з выканаўцамі, якія, нягледзячы ні на што, прыязджаюць да нас,— неацэнная магчымасць прывабіць слухачоў да лепшых дасягненняў сусветнай музычнай культуры. І ў нас ёсць усе магчымасці паказаць вяршыні сусветнага філарманічнага мастацтва. З нашых вядучых калектываў тры—сімфанічны, народны аркестры, харавая капэла — ужо сёння могуць прэтэндаваць на званне «нацыянальны». А Беларуская дзяржаўная філармонія — ператварыцца ў сапраўды Нацыянальную: з пункту гледжання прэстыжу, сапраўднага ўдзелу ў культурным жыцці краіны. Яна павінна быць пад апекай і Саўміна, і Вярхоўнага Савета, і ўсёй рэспублікі. Калі мы патрэбны Еўропе, а паездкі нашых калектываў за мяжу гэта даказалі, то мы патрэбны, і ў першую чаргу, нашай дзяржаве, нашаму спадарству.

**— Калі ўжо мы загаварылі пра замежныя паездкі, хацелася б даведацца пра «вандроўныя планы» нашага сімфанічнага аркестра, тым больш, што цяпер любы выезд за межы Беларусі можна называць «замежнымі гастролямі».**

— З прыходам, а правільней, з вяртаннем у калектыў маэстра Віктара Дуброўскага аркестр займаецца станаўленнем свайго рэпертуару, свайго творчага аблічча. У яго планах — выступленне ў двух канцэртах фестывалю «Руская зіма» ў Маскве, паездка ў Галандыю ў студзені, летам чакаюцца гастролі ў Грэцыі ды Іспаніі.

**— А якія, на ваш погляд, падзеі гэтага сезона мусяць прыцягнуць увагу слухацкай аўдыторыі?**

— Мы ўжо гаварылі пра вялікі і разнастайны план нашых канцэртаў. Хацелася б звярнуць увагу на традыцыйныя студзеньскія Дні джазу, харавы фестываль, Дні нямецкай культуры з удзелам цікавых калектываў з Расіі, Беларусі, Прыбалтыкі, Германіі. Музыка межаў не ведае, і я спадзяюся,

# І ціхі дом збянтэжаны...

**Яшчэ трыста радкоў пра «Трох сясцёр» у купалаўцаў**

Не ведаю, чаму і скуль яна ўзялася, але раптам загарэлася ў памяці так, быццам гадзіну назад перачытваў яе. Думка-прароцтва славутага Бялінскага наконт таго, што ён зайздросціць унукам і праўнукам сваім, якія будуць жыць праз сто гадоў, калі Расійская дзяржава будзе даваць прыклад еўрапейскім народам ледзь ці не абсалютна справядлівага і шчаслівага жыцця... Я ж глядзеў «Тры сястры». Гэта Антон Паўлавіч Чэхаў з ягонай неўтаймаванай трывогай за духоўную прыстойнасць чалавека. Зусім іншы час. І расійская правінцыяльная рэчаіснасць іншая. А ў галаве—«Неистовый» Вісарыён са сваёй зайздрасцю!

Каму ён зайздросціў?

Нам з вамі. Гэта мы меліся жыць у краіне суцэльнай справядлівасці і добрага ладу. Гэта з нас павінна была б браць прыклад Еўропа...

Здагадваюся: і вы горка ўсміхаецеся. Ах, гэтыя дабрадушныя ды ваяўнічыя прарокі! Ад веку то там, то тут з'яўляліся яны, каб прадказаць: давайце перачакаем і перацерпім нашае ліхалецце, бо вунь на даляглядзе мільгаціць прывід жаданага... Прывід жа і па Еўропе бадзяўся — усё таго ж годнага пашаны грамадскага ладу. Прывід камунізму.

А пры чым тут Чэхаў?

Паглядзеўшы спектакль зноў, я адчуў нейкую акрэсленую, калі так можна сказаць, эмацыянальную задуму рэжысуры Валерыя Раеўскага. Яна акурат і ёсць у тае нашай горкай усмешцы, з якой мы на схіле нашага другога тысячагоддзя ўвачавідкі пабачыўшы, на што здатны і якой ацэнкі заслугоўвае чалавек, «гомо сапіенс», ці не праз слёзы чытаем або іранічна слухаем тыя па-манілаўску прывабныя летуценні і падонкіхоцку зухаватыя абяцанні. Тэатр свядома зніжае і прызямляе Вяршыніна, бо той ці не наўздагон за «шалёным Вісарыёнам» таксама марыць і сваімі марамі перш-наперш зачароўвае сясцёр Прозаравых. Надзвычайны падпалкоўнік знайшоўся ў Пермскім гарнізоне (дзея ж адбываецца ў горадзе «накшталт Пермі»)! Ён не пустое балбоча, ён філасофствуе наконт будучага шчасця людзей, а правінцыяльным дамам і паненкам надта даспадобы прыгожы мужчына, здольны разважаць паэтычна і пафіласофску... Праўда, у адрозненне ад свайго «шалёнага» папярэдніка Вяршынін сцвярджае, што не праз сто гадоў, а праз дзвесце або трыста, але будзе на зямлі жыццё цудоўнае, дзівоснае.

Мне падалося, што і для В. Раеўскага такія прагнозы гучаць наўмысным падманам. Удвая крыўдным, бо мы па сваёй прыродзе схільны яшчэ ім верыць. Любім падманвацца! І гатовы паўтараць за мілым Аляксандрам Ігнатавічам: але, чалавек і сапраўды «павінен прадчуваць», ён закліканы марыць, чакаць і рыхтавацца да новай светлай явы.

Сёння, калі ледзь не такой жа банальнай стала іншая метафара і ў ёй шукаецца жаданы прасвет (ці днее хоць крыху ў канцы тунеля?), нам даводзіцца рыхтаваць сябе да менш добрых і не надта спрыяльных абставін жыцця. Таму В. Раеўскі і не хавае сваіх сапраўдных цяперашніх адносін да батарэйнага камандзіра Вяршыніна.

Пагадзіцеся, што, зрабіўшы гэтага героя «Трох сясцёр» прыкметна пажылым, а часам і ледзь не бурклівым суразмоўнікам і сапраўды чароўнай жанчыны Машы Прозаравай, жонкі безнадзейна шэрага гімназічнага настаўніка Кулыгіна, рэжысёр парушае наша традыцыйнае ўяўленне пра Вяршыніна наогул. Спачатку ўвасоблены А. Мілаванавым персанаж успрымаецца недарэчнай памылкай. Памыліўся рэжысёр, даручаючы ролю немаладому ўжо выканаўцу; памыляецца і акцёр, які «яшчэ» бярэцца за такія ролі.

Цяпер я больш упэўнена кажу: не, гэта не памылка. Гэта такі разлік. Такая задума. Такі намер тэатра. Адразу абудзіць у нас, гледачоў, непрыманне Вяршыніна, які ні ў чым не можа быць падобным да таго, якім ён існуе ва ўяўленні заўзятых знаўцаў Чэхава і «Трох сясцёр».

І мэта дасягнута: зала не спачувае і не перажывае за падпалкоўніка, які цягне службу ў войску, відаць, не атрымаўшы чарговага звання. Ён размаўляе з Машай з той усмешкай, дзе змушаная ветлівасць перамешана з прыхаванай самаіроніяй на адрас уласных разважанняў, а позірк скіраваны ў зямлю, у падлогу, сабе пад ногі. Не, шаноўны Аляксандр Ігнатавіч, не раўня вы для Марыі Сяргееўны ні ладам сваіх пачуццяў, ні фізіялагічным настроем (дарэчы, гэты настрой для Чэхава істотны, нездарма ж ён прызнаваўся Чайкоўскаму, што ў яго і сапраўды «мастацкія элементы густа перамешаны з медыцынскімі»). Таму не зусім натуральна і не вельмі зграбна трымаюцца А. Мілаванаў і А. Сідарава, калі жанчына даволі вытанчанага пачуццёвага малюнка ў душы ўтрапёна кідаецца ў абдымкі і прыпадае да халоднага шыняля небаракі Вяршыніна, які можа быць равеснікам бацькі яе. Праўда, пасля набокаўскай «Лаліты» нас не збянтэжыць самы дзіўны мезальянс, але... Ці не прадугледжана такое ўздзеянне дуэтаў Вяршыніна і Машы на гледача рэжысёрскай трактоўкай? Пазбавіць сцэнічны вобраз дамарослага прарока светлай будучыні таго арэолу, які ёсць у гэтага чэхаўскага героя, кажучы па-сучаснаму, дыскрэдытаваць яго, намацаўшы «ахілесаву пяту» ў пацёртага жыццём паважнага служакі... Вядома, тады ўсе тырады пра харaство дабрачыннай будучыні выслухаюцца толькі таму, што іх гаворыць старшы па чыне афіцэр з сівізной у барадзе. Шчыра прызнаюся, мне ў такой рэжысёрскай трактоўцы на другім праглядзе спектакля прыгадалася тая пралетарская пагарда да духоўнага выбранніка, якую адзначалі ў атмасферы грамадскіх катаклізмаў пасля Кастрычніка сумленныя філосафы і наогул інтэлігенты.

Што і казаць, Вяршынін, зразумела, па-чалавечы даступны для нападу на яго і для кпін (адна жонка, псіхічна не вельмі здаровая і скандальная, чаго варта!), але ж ён не пустазвон.

Затое ўсе астатнія вайскоўцы ў спектаклі В. Раеўскага даволі маляўніча раскрываюць не вельмі кідкую плынь вобразнага роздуму Чэхава пра сэнс і выдаткі армейскага побыту наогул. З якой нагоды ходзяць у гэты сапраўды гасцінны і такі ўтульны дом зацягнутыя ў мундзіры мужчыны? Доктар Чабутыкін — зразумела: ён некалі быў аднапалчанінам нябожчыка Прозарава, бацькі трох сясцёр. А чаго бадзяецца сярод гэтых добра выхаваных паненак грубы Васіль Васільевіч Салёны?

Штабс-капітан, ён то набычана мазоліць языком наконт двух універсітэтаў у Маскве, то адкрыта пагардліва цвеліць саслужыўца Тузенбаха, бо той — барон і заляцаецца да Ірыны. Ну, калі і ты сам пакахаў яе, дык жа трымайся так, каб спадабацца ёй. А тут: «у Маскве два універсітэты» і ўслед Тузенбаху адно «цып-цып»... Артыст М. Кірычэнка паўстае Салёным, які страшэнна пакутуе ад бессэнсоўнага армейскага існавання і помсціць усяму свету за сваю асуджанасць на тое існаванне. Свядомы гарнізонны задзірака, які сам сабе здаецца гэткім Лермантавым з брэцёрскімі звычкамі.

Бяссэнсавасць армейскай руціны з яе парадамі, манеўрамі, аглядамі выдатна акцэнтуецца ў паводзінах непрыкаяных падпаручнікаў Лёшы Фядоціка і Уладзіміра Радэ. Колькі намаганняў у першага з іх, і ўсё дзеля таго, каб у вачах паненак выглядаць непасрэдным жыццялюбам, кампанейскім хлопцам, не чужым у гэтым інтэлектуальным асяроддзі (арт. В. Манаеў). А ў В. Рэдзькі наогул амаль няма слоў, і ягоны падпаручнік Радэ пераадольвае скаванасць, смакуючы розныя «трынкі» з графінаў і бутэлек. Гітара ў яго нешта брынкае, нібы ён збіраецца праспяваць раманс, гэты без дай прычыны змрочны весялун, але штосьці не спяваецца і яму пад дахам ціхага дома Прозаравых.

Дзіўна, але загучала ў спектаклі В. Раеўскага думка аднаго з герояў і іншага драматурга... М. Горкага: «Любоў да жанчыны — фатальна трагічнае прызначэнне мужчыны...» Ці не гэта і вядзе сюды таго ж Вяршыніна? Таму мітусіцца і не знаходзіць спакою Тузенбах. Яно ж прыгнятае і спустошвае таленавітага Андрэя Прозарава (Г. Давыдзька). І горбіцца пад цяжарам таго ж прызначэння Фёдар Ільіч Кулыгін (В. Філатаў), які сядзіць перад раскрытым піяніна і не можа сыграць нават «Трамблямку». І доктар Чабутыкін Г. Аўсянікава жыве ўспамінам пра сваё каханне да маці трох сясцёр —каханне без узаемнасці... Каханне—як атрута мужчынскага жыцця. Ці варта было для доказу гэткага няхітрага выслоўя разгортваць п'есу Чэхава?

І справа зусім не ў тым, хачеў таго ці не, рабіў гэта свядома тэатр ці так атрымалася само па сабе. Пэўна, мы ўсе такія палітызаваныя гледачы, што з размеркавання роляў, з асобных мастацкіх штрыхоў, намёкаў, нюансаў абавязкова «здабываем» нешта адпаведнае нашым сягонняшнім настроям і ўражанням. І ў тэатра, і ў гледача з'яўляецца, я сказаў бы, вельмі савецкая спакуса — абавязкова вынесці вердыкт: «наватар» або «руцінёр», «прагрэсіст» або «рэакцыянер», «наш» або «не наш», «цнатлівы» або «амаральны», «фанатык» або «прыстасаванец», «рыцар» або «лавелас». Але чэхаўскія «Тры сястры» таму і шэдэўр драматычнай літаратуры, што п'еса спакваля памагае нам высвятляць зыходны пункт гледжання без забабонаў на ўсё існае ў жыцці, хоць фабульна жыццёвыя прыгоды пачынаюцца тут галантным заляцаннем да жанчын і далікатнай рыторыкай з абодвух бакоў...

што мы заўсёды будзем іх пераадольваць не кантрабандай. Фестываль «Мінская вясна» прысвечаны ў гэтым сезоне 120-годдзю з дня нараджэння С. Рахманінава. У сакавіку пройдзе конкурс, вынікам якога будуць новыя лаўрэаты і розныя праграмы з рахманінаўскіх твораў. 26 красавіка — нашу чорную чарнобыльскую дату — мы адзначым канцэртам, у якім будзе гучаць «Рэквіем» Д. Вердзі.

**— Сёлета мы адзначаем 60-годдзе нашай кансерваторыі, якая цяпер урачыста называецца Акадэміяй музыкі...**

— А мне шкада такой звыклай для нас, музыкантаў, назвы, бо так ужо склалася, што кансерваторыя — гэта вышэйшая школа музыкі. Ну ды справа, канечне, не ў назве... Будуць у нас праграмы, прысвечаныя дзейнасці і творчасці адзінай на Беларусі музычнай ВНУ такога статуса; канцэрты калектываў акадэміі, кафедраў, лаўрэатаў конкурсаў, выступленні даравітых навучэнцаў музычнага ліцэя.

**— Мне хацелася б асабліва адзначыць велізарную работу, якую філармонія праводзіць з юнымі слухачамі: абанементы «Усёй сям'ёй на канцэрт» для самых маленькіх слухачоў і іх бацькоў, «Там, дзе музыка жыве» для вучняў 2—4 класаў, «Дзіцячыя гады любімых кампазітараў», «Сусветная мастацкая культура», «Аматарам фантастыкі і казкі», а таксама цыклы «Юныя таленты» і «Юныя таленты — лаўрэаты міжнародных конкурсаў». Практычна вашы абанементныя цыклы ахопліваюць усю дзіцячую і юнацкую аўдыторыю. Вельмі хацелася б, каб такая праца як мага хутчэй пачала даваць вынікі і нашы, правільней, вашы залы напаўняліся б сапраўднымі аматарамі і знаўцамі цудоўнага. На мой погляд, ужо цяпер канцэрты філармоніі збіраюць слухачоў, сярод якіх шмат моладзі. І гэта вельмі радуе, асабліва сёння, калі адзінае, што можа падтрымаць нас, даць сілы і мужнасць вытрымліваць жыццёвы цяжар і няпэўнасць,— сустрэчы з сапраўдным мастацтвам. Але культура, высокае мастацтва — гэта вельмі дарагая асалода. І маё апошняе пытанне да вас, Юрый Мікалаевіч: а ці ёсць у Беларускай дзяржаўнай філармоніі спонсары — людзі, якія не шкадуюць грошай на падтрымку і развіццё нацыянальнай музычнай культуры?**

— Асноўны наш «спонсар» Міністэрства культуры, з якім мы працуем у цеснай лучнасці. А ў нашых прадпрымальнікаў, відаць, яшчэ не саспелі для гэтага ўмовы. Натуральна, што фестывалі кшталту «Славянскага базара»,— гэта лёгкая рэклама, якая адразу прыносіць славу. З сімфоніямі і іншымі філарманічнымі жанрамі справа больш складаная. Але я спадзяюся, што настане час і з'явяцца ў нас менеджэры сусветнага класа, якія будуць лічыць сваім святым абавязкам падтрымліваць нацыянальную культуру, таму што такія з'явы, як Коля Гімалетдзінаў, Мікаэл Самсонаў, Андрэй Сікорскі, Алег Рылатка і іншыя нашы маладыя лаўрэаты — яны павінны не толькі быць пачутымі прафесіяналамі, а і стаць сапраўды народным набыткам. Мы ж, у сваю чаргу, абавязуемся спонсарам, якія адгукнуцца на нашы патрэбы, рэкламаваць іхнюю дзейнасць усімі магчымымі для нас сродкамі. Мецэнацтва павінна быць развіта, але для гэтага патрэбны і час, і адпаведныя ўмовы. Добра, што галоўным мецэнатам выступае ў нас дзяржава, але я хачу, каб гэты працэс развіваўся глыбей, не на словах, а на справе. Справе, скіраванай на ператварэнне філармоніі ў сапраўдны нацыянальны здабытак.

**— Дзякуй за інтэрв'ю.**

**Іна ГУРАРЫЙ.**

---

Замест В. Паўлюцяя, які быў Тузенбахам на прэм'ерных спектаклях, выступае І. Дзянісаў. І ён, мабыць, не думаючы аб тым, пацвярджае нашу здагадку пра наўмыснае зніжэнне вобраза Вяршыніна. Бо і гэты барон таксама выглядае не па гадах прыгнечаным, мучыцца неспадзяваным комплексам непаўнавартасці. Як і А. Мілаванаў, артыст І. Дзянісаў асцерагаецца, каб не прамовіць непасрэдна і шчыра словы пра тое пакутлівае цярпенне, якое нібыта ўжо назіраецца і сведчыць аб пэўным маральным уздыме, якога дасягло грамадства. Артыст не хоча, каб гэта гучала глыбокім перакананнем Мікалая Львовіча. А ці не з-за таго перакананння ён і пакідае войска, робіцца цывілам: яму ж абрыдла ка́ставае армейскае асяроддзе.

Добра, што ў І. Дзянісава з'яўляюцца моманты, калі яго-ны герой прыслухоўваецца да самога сябе. Тады пачынаеш верыць, што і ў гэтага рафініраванага інтэлігента ёсць свой свет, свая праўда. Не ўсім тут гэта зразумела, а сярод вайскоўцаў і наогул лічыцца непатрэбным мудраваннем, і таму барон выказвае свае думкі не без юнацкага запалу. На сцэне гэты персанаж саромеецца свайго запалу і адразу ж яго гасіць, пачынае разважаць разгублена, хісткім тонам або, наадварот, амаль узлавана.

На самай справе, разважаючы такім чынам, барон спрабуе абудзіць у каханай прыхільнасць да сябе як да чалавека, не чужога ліберальным ідэалам, начытанага, чулага да ўсяго высакароднага. Мы цяпер добра ведаем, што тайны сэнс ці не кожнага слова, прамоўленага такой асобай у такіх абставінах, — гэта «які я разумны» або «які я сумленны».

На сцэне ж спяшаецца прамовіць свае сентэнцыі надакучлівы назола. І тут тэатр не ўтрымаўся ад жадання «выкрыць» класава непрывабнага афіцэра нямецкага паходжання ды яшчэ і са схільнасцю да красамоўства.

Вось і атрымліваецца, што наш тэатр у часы панавання сацрэалізму старанна рабіў з таго ж Вяршыніна альбо Тузенбаха ледзь не вяшчальнікаў светлай будучыні і навальнічна-ачышчальнай рэвалюцыі, а цяпер прыкладае намаганні, каб прынізіць і абсмяяць больш-менш здаровае адчуванне сілы жыцця і веры ў чалавечнасць людзей, хай сабе і толькі ў будучым.

У спектаклі, аб якім я пішу, адбыўся акцёрскі дэбют актрысы Валянціны Браўдэ. Яе Ірына і сапраўды нібы народжана для таго, каб любіць і быць любімай, дарыць радасць. І — не атрымліваецца! Вось у чым драматызм яе лёсу. Таму, хто любіць яе, яна ўзаемнасцю адказаць не можа, і адштурхнуць барона ёй сорамна, бо гэта вышэйшая нетактоўнасць. Твар В. Браўдэ свеціцца сонцам, калі яна кажа пра сваё служэнне людзям, а пайшла Ірына працаваць на пошту і работа адразу зрабілася для яе абрыдлай, манатоннай, сумнай.. Гэта ўсё чэхаўскія імпульсы сцэнічнага жыцця. Толькі ці варта актрысе так старанна выконваць заданне рэжысуры і кідацца ў істэрыку і адзін раз, і другі?.. Няўцешныя слёзы роспачы В. Браўдэ магла б праплакаць больш вытанчана, па-прозараўску, з мілай сарамлівасцю. Гэта ў магчымасцях яе таленту.

Агульнапрызнана, што драматургія Чэхава мае нешта таямнічае, змяшчае ў сабе заўсёды прываблівы для тэатра сакрэт. Ёсць і ў «Трох сёстрах» у купалаўцаў штосьці сугучнае арыгіналу твора, як і сугучнае нашай сучаснай самасвядомасці. Я другі раз спрабую разабрацца ў сваіх уражаннях. Нейкая сіла эмацыянальнага поля ў спектаклі паклікала мяне зноў. Вядома, рэцэнзент заўсёды спрашчае нават уласныя меркаванні. Аднак, пачуўшы, як Прозаравы развітваюцца з пералётнымі птушкамі і з артылерыйскай батарэяй, якая пакідае горад, услухоўваючыся ў галасы трох сясцёр, што не толькі аплакваюць свой лёс, а і думаюць аб вечным, аб месцы чалавека ў сусвеце і ў бясконцым часе, ты сам далучаешся да нечага невымоўна хвалюючага. І гэтае ўражанне спрачаецца з адчуваннем таго сумнага вадэвіля, як жанрава вызначыў свой спектакль В. Раеўскі, — наўрад ці з пераносным сэнсам у слове «сумны».

**Барыс БУР'ЯН.**

---

# БАЛЬ ШЧАСЛІВЫХ ПАПЯЛУШАК

## «Хэло, Долі!» у Дзяржаўным тэатры музычнай камедыі Беларусі

І што за слова такое трывожна-шчымлівае: «вакзал»! Сімвал вяртання? Сімвал чакання? Растання? Часовага прытулку на тлумнай дарозе жыцця?.. Вось людзі сабраліся на старамодным дэбаркадэры. Чмыхнуў паравозік, спавіўшы дымам рэйкі, вагоны, перон, і тых, хто прыехаў, і хто ад'язджае, і хто назірае за тымі й другімі...

Вы змаглі б вылучыць у вакзальным натоўпе тую папялушку, якой наканавана пад захопленыя воклічы: «Хэло, Долі!» правіць баль? Баль будзе. І воклічы будуць. Толькі ў фінале. А пакуль дайце веры, што вунь тая дзіўнаватая «шэрая мышка» і ёсць галоўная гераіня новай музычна-сцэнічнай імпрэзы. Стомленая ды нястомная Долі (Н. Гайда) нібы вылузваецца з вакзальнай сумятні: кабета, пра якую адразу не скажаш нічога пэўнага, бо прыкмячаеш не выраз ейных вачэй, а клятчасты дарожны строй, капялюшык, чамадан ды парасон. І толькі голас вымушае ўспомніць класіка: «Ёсць галасы — як абяцанне шчасця».



С. Лугава ды Г. Казлоў у сцэне са спектакля.

Каму абяцае шчасце гэты голас? Які такі сакрэт ведае дзівачка Долі, нанятая старым кульгавым скнараю Горасам Вандэргельдэрам для ўпарадкавання яго матрыманіяльных праблем? Э, ды яна мо крыху вар'ятка: бярэцца радзіць у самых розных справах, дае ўрокі танца, робіць за шлюбнага агента, прытым з'едліва заўважаючы, што добрая жонка — гэта пастаянная жанчына для прыбірання ў хаце, а шлюб — гэта хабар за тое, каб прыслуга лічыла сябе гаспадыняю дома. І хай нехта дагодліва й шматзначна прамаўляе: «Спадарыня, ваш цягнік пайшоў»,— Долі, доўгія гады адданая памяці нябожчыка-мужа, куды болей шматзначна маўчыць. Яна-то ведае: кожнаму пасажыру — свой цягнік. І пазірае ў бок прыгожых вагончыкаў, якія чамусьці адарваліся ад цягніка, у якіх апынуліся людзі, дачасна «засунутыя» на запасныя рэйкі...

Спадар Горас (А. Ранцанц), гаротны, удовы ды багаты, мае рыхтык гэткі дом-вагончык, у якім надта нудзіцца, аж без дай прычыны таўчэ ды ганарує мянушкай «два ідыёты» ўласных работнікаў. Тыя літаральна загнаныя ў падполле: выныраюць недарэкі з-пад падлогі дома-вагончыка. 33-гадовы цыбаты Карнэлій Хэкл (Г. Казлоў), які ўжо даўно вырас са сваіх кароткіх штонікаў, а так і не спазнаў жаночае ласкі; амаль удвая маладзейшы, прыгожы, ды заіклівы Барнабі (В. Шабуня), найвышэйшым шчасцем для якога было б пабачыць чучала кіта. Абодва гатовыя збегчы ад гаспадара, зрабіць для сябе доўгачаканы выхадны, пашпацыраваць па Нью-Йорку, глытнуць вольнага жыцця і нарэшце пазбыцца комплексаў... Хто сказаў, што папялушкі не бываюць у мужчынскім абліччы?

У Нью-Йорку ж ёсць такі самы белы вагончык з самотнымі людзьмі: капялюшнае атэлье, дзе сярод манекенаў (грацыёзная скульптурная пластыка ды самаахвярная трывушчасць маладых артыстак балета ў гэтых ролях!) працуюць мадысткі. Зграбная прыгожая маладая ўдава Ірэн Молай (яркая заяўка на ролі гераінь артысткі С. Лугавай) згодная на мезальянс з Горасам, бо абрыдла быць аб'ектам нечай рэўнасці ды плётак. Весялушка Міні (З. Вяржбіцкая) гатовая па-сяброўску паспачуваць, але... Але тут надараецца нагода для розыгрышу: рынуўшыся ў «самаволку», двое правінцыялаў апыньваюцца ў атэлье і, не адрозніўшы ад манекенаў постаці жывых жанчын, пачынаюць хуценька пераапранацца ў святочныя гарнітуры, каб паўстаць перад гаспадынямі багатага салона ў абліччы шыкоўных пакупнікоў...

«Чытаю, чытаю — і так нічога не зразумеў!» — усхопіцеся вы. Але, я ўзялася за пяро не з тым, каб «інвентарызаваць» спектакль. Хацелася падражніць чытача, выцягнуць яго на прэм'еру: у тэатры музкамедыі нячаста з'яўляюцца пастаноўкі, здатныя хоць трошкі паказытаць уяўленне гурманаў ад мастацтва.

Папулярны ў 60-я гады мюзікл Д. Германа «Хэло, Долі!» (у нашым тэатры тады да яго, як цяпер кажуць, «не дайшоў ход») застаўся ў памяці слухачоў аднайменным шлягерам, запісаным выдатнымі джазавымі выканаўцамі Л. Армстрангам ды Э. Фіцджэралд. Нягледзячы на аб'ектыўны адбітак часу ў музычнай стылістыцы, архаічную наўінасць сюжэта, твор праз 30 год набыў сучаснае гучанне. Ці дакладней, жывое дыханне, якое перадалося праз адухоўленую працу ўсіх стваральнікаў спектакля.

Рэжысёр В. Цюпа ўзяў відавочны творчы рэванш за колішнія оперныя пастаноўкі, не надта падтрыманыя крытыкай. «Хэло, Долі!» магла стацца проста мілай тэатральнай пацешкай, а дзякуючы рэжысуры выдае на твор з пэўнай псіхалагічнай канцэпцыяй і прываблівае шэрагам відовішчных прыдумак, мастацкіх дэталяў менавіта з рэжысёрскім аўтарствам. Аднак я не думаю, што ў праграмцы варта было пазначаць В. Цюпу як «аўтара спектакля». І не таму, што гэтак не рабілі ў дачыненні да сваіх бясспрэчна аўтарскіх сучасных прац ні Г. Таўстаногаў, ні А. Эфрас, ні Ю. Любімаў. А таму, што «Хэло, Долі!» мае (апроч аўтараў самога мюзікла, вядома) і яшчэ аднаго стваральніка, дзякуючы якому адбылася цудоўная музычная метамарфоза.

Гэта дырыжор А. Сасноўскі. Ён не проста дамогся прыстойнай ігры ад вечна пагарджанага аркестра тэатра. Ён пераствaрыў, у суладдзі з рэжысурай, традыцыйную партытуру ў акустычна складаны **тэатр музыкі.** І, увёўшы дадатковыя выканаўчыя структуры, дасягнуў даволі ўстойлівага гукавога балансу паміж тым, што гучыць на сцэне і ў аркестравай яме. (Падводзіць, бывае, недасканалая гукатэхніка). Празрыстыя інтэрлюдыі фартэпіяна (на сцэне ўвесь вечар канцэртмайстар тэатра В. Крыштопенка, ён жа ў II дзеі — піяніст Гары) плаўна падхопліваюцца аркестравым акампанементам. Сімфанічнае вязьмо з трох асноўных тэм на пачатку II дзеі пікантна адцяняецца граннем сцэнічнага бэнда (музыканты ў нью-йоркскім рэстаране). Асабліваe замілаванне выклікае дыксіленд (I дзея). Пачуць чысты голас засурдзіненай трубы ці шэпт банджо — якая асалода! Маладзенькія музыкі граюць гэтак заўзята і гожа, што хочацца, паводле завядзёнкі на канцэртах джазменаў, вітаць воплескамі кожнае зухаватае сола — шкада, публіка вакол не джазавая, не зразумее...

Відавочна, што рэжысёрскую фантазію падтрымлівае і сцэнаграфія У. Жданава (касцюмы — В. Жалонкінай). Арганічна ўплецены ў пастановачную канву пластыка, танец (праца харэографа Н. Дзячэнкі ды ейнай англійскай калежанкі Д. Нолан), асабліва ў дынамічнай II дзеі — выхад афіцыянтаў, уцёкі «выкрадальнікаў грошай»...

А хіба не сааўтары спектакля — акцёры? Кульмінацыяй акцёрскага ансамбля робіцца дуэт віртуозных партнёраў Н. Гайды і А. Ранцанца, чые героі высвятляюць стасункі й не могуць паразумецца аж да фіналу, калі, скінуўшы зрэб'е папялушкі, Долі з'яўляецца не проста вясёлай — чарадзейнай удоўкай: з пасвятлелым тварам, загадкавым святлом у вачах, грацыёзная, атуленая мяккім залацістым ззяннем. (Непераможны акцёрскі талент Н. Гайды, якая гэтак пераканальна **перастварае** сваю гераіню). Вартыя адно аднаго Долі й Горас вядуць сваю «мелодыю характараў» пад кантрапункт гаротных уздыхаў і пазіркаў метрдатэля Рудзі (непазнавальны А. Касцецкі з дэманстрацыйна выбеленым пакутніцкім тварам «белага клоуна»).

...Тым часам рытм вальса нібыта зліваецца з перазовамі нібыта колаў вагона, у якім нібыта імчыць хаўрус «папялушак», які падхоплівае знакаміты шлягер пра вяртанне Долі. (У хаўрусніку пэўна трапляе і знясіленая буднямі тэатральная публіка). Баляванне для іх — шчаслівая хваля ў манатонным бегу па рэйках жыцця ды ў вакзальным тлуме будзённшчыны...

**С. БЕРАСЦЕНЬ.**

Фота І. МАКАЛОВІЧА.

# БЕЛАРУС У КАМАНДЗЕ «ЛЕНД-ЛІЗА»

**Мінула пяцьдзесят гадоў з пачатку Другой сусветнай вайны. У сувязі з гэтым адзначаюцца розныя юбілеі. У прыватнасці, сёлета спаўняецца паўстагоддзя з часу прыходу ў Мурманск першага каравана суднаў саюзнікаў, а таксама пачатку дапамогі СССР па «ленд-лізе». Змяшчаем нарыс пра Канстанціна Ігнатавіча Лукашова, які, так бы мовіць, «прапусціў ленд-ліз праз свае рукі». Нарыс напісаны яго сынам, членам-карэспандэнтам Акадэміі навук Беларусі В. К. Лукашовым.**

***Валянцін ЛУКАШОЎ***

НА ПАЧАТКУ НАШАГА стагоддзя на дарозе Гарадзец—Быхаў можна было часта напаткаць вясковага падлетка Кастуся Лукашова. Звычайна ў канцы тыдня ён ішоў праведаць сваіх бацькоў у Гарадцы, пасля вяртаўся ў Быхаў з харчамі на наступны тыдзень (бульба, хлеб, зрэдку брусок сала). Тым часам ён вучыўся ў Быхаве, дзеля чаго бацька наняў яму куток у адной яўрэйскай сям'і, за што расплачваўся дрывамі, якія, дарэчы, Кастусь павінен быў у дадатак пілаваць і калоць. Дарога толькі ў адзін канец была немалая — шаснаццаць кіламетраў, і хлопец паспяваў перадумаць пра ўсё на свеце. Часам набягалі думкі і пра тое, што будзе з ім пасля таго, як скончыць школу, як пойдзе ў людзі. Але нават і ў самых смелых марах не мог уявіць, што прынясе яму лёс у сапраўднасці.

Канстанцін Ігнатавіч Лукашоў прайшоў шлях ад студэнта да рэктара Ленінградскага універсітэта, стаў буйным савецкім вучоным, пазней быў рэктарам БДУ, віцэ-прэзідэнтам АН БССР і г.д. Яркай старонкай у яго доўгім жыцці (памёр ён у 1987 годзе на 81-ым годзе жыцця) была шматгадовая камандзіроўка ў ЗША (1939—1944), пра што і пойдзе гаворка ў гэтым нарысе.

У ВЫНІКУ РЭПРЭСІЙ у канцы 30-х гадоў у нашай краіне аказаліся абезгалоўленымі не толькі камандны састаў арміі, партыйныя і гаспадарчыя органы, інтэлігенцыя, але і дыпламатычныя і гандлёвыя прадстаўніцтвы за мяжой. Тэрмінова спатрэбіліся новыя кадры. Іх фарміравалі за кошт найбольш здольных людзей, у тым ліку і вучоных. Адным днём 1938 года і мой бацька, рэктар ЛГУ, нечакана быў выкліканы да М. А. Вазнясенскага, які прапанаваў яму паехаць на дыпламатычную работу за мяжу. Адчуўшы нерашучасць бацькі, Вазнясенскі заўважыў: «Вы, пэўна, моцна ўраслі ў свой грунт» (бацька быў геолагам, спецыялістам па грунтазнаўстве) і адпусціў падумаць. Наступная сустрэча была ўжо з намеснікам старшыні Саўнаркома СССР, народным камісарам знешняга гандлю А. І. Мікаянам. Як толькі бацька павітаўся, Анастас Іванавіч спытаў: «Дык куды вы, Канстанцін Ігнатавіч, хочаце больш паехаць: у Англію ці ў ЗША?» Бацька міжволі ўсміхнуўся і адказаў, што — у ЗША. Тады А. Мікаян прапанаваў яму пасаду прэзідэнта «Амгандлю».

З першых даваенных сустрэч-інструкцый з А. Мікаянам бацьку найбольш запомнілася тое, як Анастас Іванавіч тлумачыў яму, што ў ягонай рабоце самае галоўнае — гэта каб бацька быў з ім заўсёды шчыры і сумленны. Ён растлумачыў бацьку, што разгортванне савецка-амерыканскага гандлю накіравана на ўмацаванне нашай краіны напярэдадні магчымай будучай вайны. А ў часе адной з сустрэч А. Мікаян наказаў бацьку, каб ён самым рашучым чынам не падпускаў да гандлёвых спраў супрацоўнікаў НКУС. Пэўна, у Мікаяна на гэты конт было сваё асаблівае меркаванне.

Нарэшце, падрыхтоўка скончылася. Летам 1939 года бацькі, узяўшы і мяне (мне споўніўся год), выправіліся ў дарогу. Ехалі праз Польшчу, Германію з прыпынкам у Парыжы. Можна уявіць, якое ўражанне рабіла гэтая паездка на маіх бацькоў, якія дагэтуль ніколі не былі за мяжой. Асабліва запомніўся ім Парыж. Ён выклікаў у іх прыемныя ўспаміны ўсё жыццё. З Гаўра наша сям'я адплыла на «Нармандыі» ў ЗША. Гэта быў адзін з буйнейшых пасажырскіх лайнераў таго часу. Праз некалькі гадоў ён згарэў пры загадкавых акалічнасцях на верфі ў Нью-Йорку.

У Нью-Йорку бацькоў сустрэў супрацоўнік «Амгандлю». Па ўспамінах маці, быў спякотны дзень, вопратка прыліпала да цела. Сустракаўшы ўзялі мяне на рукі і памаглі перанесці рэчы. Пачалося жыццё ў Нью-Йорку — у горадзе, які звычайна ніхто не пакідае абыякавым: яго альбо хваляць, альбо ганяць. Я не памятаю, што гаварыў пра яго бацька. Яму, пэўна, было ўсё роўна, найперш турбавала работа.

Паводле другога выдання ВСЭ, «Амгандаль» — гандлёвае прадпрыемства, заснаванае ў Нью-Йорку ў 1924 годзе як прыватнае акцыянернае таварыства для выканання экспартных і імпартных аперацый. Утворана шляхам зліцця двух раней існаваўшых у ЗША таварыстваў: «Arkos-Amerika Inc» і «Products Exchange Corporation». Займаліся яны пераважна продажам савецкіх тавараў у ЗША і закупкай амерыканскіх тавараў для СССР. Акцыянерны капітал «Амгандлю» напачатку складаў 1 мільён долараў, з цягам часу быў павялічаны ўтрая. «Амгандаль» быў створаны з удзелам сродкаў савецкіх знешнегандлёвых арганізацый. Да пераносу аперацый па заключэнні знешнегандлёвых здзелак з-за мяжы ў СССР (1935) «Амгандаль» быў асноўнай арганізацыяй, якая выконвала ў ЗША экспартныя і імпартныя даручэнні савецкіх знешнегандлёвых аб'яднанняў.

Досыць цікавую характарыстыку «Амгандлю» 20-х гадоў даў у сваіх успамінах памочнік Сталіна Б. Бажанаў. Ён апісаў выпадак, калі на тройцы абмяркоўвалася пытанне аб лёсе Склянскага, былога намесніка Троцкага. Сталін прапанаваў адправіць яго ў Амерыку старшынёй «Амгандлю». У сувязі з гэтым Бажанаў адзначаў: «Гэта пасада вялікая. З Амерыкай дыпламатычных адносін няма. Там няма ні паўпрэдства, ні гандпрэдства. Ёсць «Амгандаль» — гандлёвая місія, якая гандлюе. На самай справе яна замяняе і выконвае функцыі і паўпрэдства, і гандпрэдства, і базы для ўсёй падпольнай работы Камінтэрна і ДПУ. Гандлёвыя функцыі яе таксама важныя. Яшчэ нядаўна, пасля грамадзянскай вайны, удалося аднавіць цалкам разбураны чыгуначны транспарт толькі своечасовым закупам вялікай партыі паравозаў у Амерыцы, што зрабіла спецыяльная гандлёвая місія, на чале якой стаяў нібыта прафесар Ламаносаў: усе гэтыя закупкі магчымы толькі дзякуючы падтрымцы моцных фінансавых яўрэйскіх груп, што прыхільна ставяцца да савецкай рэвалюцыі. Тут трэба шмат дыпламатыі і ўмельства». (Склянскі нядоўга быў старшынёй «Амгандлю». Неўзабаве ён загінуў пры загадкавых абставінах у час прагулкі па возеры на маторцы. Пра гэта — у 39-ым нумары «Огонька» за 1989 год).

(У гісторыі «Амгандлю» былі і яркія, і менш яркія старонкі. Да першых бясспрэчна адносіцца работа гэтай арганізацыі ў гады індустрыялізацыі СССР, у дні сумеснай барацьбы з германскім фашызмам і інш. У 1939 годзе «Амгандлю» споўнілася 15 гадоў. З гэтай нагоды ў «Правде» за 23 мая быў апублікаваны артыкул «Наш вопыт — Ваш набытак...» (гэты дэвіз накрэслены на гербе «Амгандлю»).

Да менш яркіх старонак біяграфіі «Амгандлю» можна, пэўна, аднесці яго ўдзел у распродажы мастацкіх і гістарычных каштоўнасцей нашай краіны ў 20-я гады (тады «Амгандаль» узначальваў П. Багданаў), у правядзенні гандлёвай палітыкі масавага выкіду танных (за кошт выкарыстання працы зняволеных і коштам голаду ўласнага насельніцтва) тавараў на сусветны рынак у час дэпрэсіі сусветнай эканомікі на мяжы 20—30-х гадоў. Апошняе нічога, акрамя шкоды, нашай краіне не прынесла і зусім не адпавядала заклікам Леніна вучыцца гандляваць. Пра гэта больш падрабязна можна прачытаць у тым жа «Огоньке» (№№ 6, 7, 8 за 1989 год).

У прыватнасці, палатай прадстаўнікоў кангрэса ЗША ў 1932 годзе была нават створана камісія для «расследавання дзейнасці СССР» на чале з Г. Фішам, якая канстатавала, што крыніцай савецкага экспарту ў ЗША з'яўляецца «прымяненне прымусовай працы ў сталінскіх лагерах», і запатрабавала закрыць «Амгандаль», выслаць з краіны савецкіх супрацоўнікаў (у пачатку 30-х гадоў «Амгандаль» быў досыць саліднай установай са штатам каля 500 чалавек), накласці эмбарга на імпарт марганцу з СССР і ўвесці новыя іміграцыйныя законы, якія б забаранялі ўезд у ЗША замежных камуністаў. У выніку гэтага аб'ём савецка-амерыканскага гандлю знізіўся ў 8 разоў, і спатрэбілася нямала часу і сіл, каб аднавіць яго. Гэта адбылося ўжо ў канцы 30-х гадоў. Такім чынам, да моманту прызначэння майго бацькі прэзідэнтам «Амгандлю» ў 1939 годзе гэтай арганізацыі было ўжо 15 гадоў. А пасада яе прэзідэнта сапраўды вымагала, па вызначэнні Б. Бажанава, умельства і дыпламатыі.

З ПЕРШЫХ ДЗЁН жыцця ў ЗША бацька з маці заселі за вывучэнне англійскай мовы. Яны бралі ўрокі ў мужа і жонкі Дзіксан, вядомых у Амерыцы выкладчыкаў, якія надавалі галоўную ўвагу штодзённай практыцы і старанкасці. Бацька з маці пачалі смела гаварыць між сабою дома на англійскай мове. Ведання мовы вымагалі нават дачыненні з прыслугай, якая належала бацьку па рангу. У выніку маёй першай мовай стала англійская. Да сямі гадоў я не ведаў рускай мовы. Аднак усё гэта дапамагло бацькам у тых акалічнасцях. Бацька пачаў неўзабаве весці ўсе вусныя і пісьмовыя справы па ленд-лізе без перакладчыкаў.

С. Кузін, які працаваў разам з бацькам, гаварыў пасля: «Канстанцін Ігнатавіч быў вельмі вытрыманым чалавекам. Калі супрацоўнік штосьці не зрабіў ці зрабіў не так, ніколі не павышаў голасу, цярпліва і спакойна тлумачыў, што ад яго трэба было.

Калі Канстанцін Ігнатавіч атрымліваў тыя ці іншыя даручэнні з Масквы, асабліва ад А. І. Мікаяна, ён адразу ж занатоўваў іх на паперы. Пасля праз дватры тыдні рэгулярна правяраў, як яны выконваюцца. Пры гэтым памяць у яго была надзвычайная. Аднойчы ў адну з папер для дзярждэпартамента ЗША пасля ўзгаднення з усімі нашымі службамі ён унёс свае канчатковыя заўвагі. А потым гэтая паперына з праўкамі згубілася сярод іншых папер гандпрэдства. Калі недзе праз месяц яна тэрмінова спатрэбілася, супрацоўнікі не змаглі знайсці прапрацаваны варыянт і надрукавалі стары. Прынеслі дакумент на подпіс. Прэзідэнт «Амгандлю» адразу ж гэта заўважыў: «Таварышы, я ж зрабіў заўвагі да яго на палях злева сінім алоўкам, чаму яны не ўлічаны?»

Канстанцін Ігнатавіч быў вельмі ўважлівы і, як успамінаў С. Кузін, прынцыповы ва ўсіх справах прадстаўніцтва. У амерыканцаў ёсць звычай дарыць адзін аднаму падарункі да святаў. Бацька патрабаваў, каб усё, што адрасоўвалася «Амгандлю», старанна фіксавалася. Ён асабіста правяраў гэтую бухгалтэрыю і спісы, сачыў, каб людзі, якія нас віншавалі, таксама атрымлівалі падзякі. Ён надаваў гэтаму асабліва важнае значэнне і хацеў, каб ніхто з тых, хто праяўляў сімпатыі да нашай краіны, не заставаўся па-за ўвагай. Акрамя таго, такая рэакцыя на віншаванні павінна была характарызаваць дзелавыя якасці «Амгандлю». Падарункі, якія паступалі ад амерыканцаў, былі самыя разнастайныя і часам нечаканыя. Прэзідэнт адной буйной фірмы падараваў зробленыя ім самім барэльефы Леніна і Сталіна, другі — аграмадная індыка са сваёй фермы і г.д.

Бацька надаваў вялікае значэнне таму, якое ўражанне заставалася ў амерыканцаў ад супрацоўніцтва з нашымі арганізацыямі ў ЗША. Ён меркаваў, што трэба змагацца з паклёпам на нашу краіну. У сувязі з гэтым у яго адбылася сустрэча з Генры Фордам-старэйшым. Гэта быў буйнейшы аўтамабільны магнат, аўтар так званага канвеернага метаду вытворчасці аўтамабіляў. Ён быў вядомы таксама сваімі пранямецкімі настроямі, меў заводы ў Германіі. Дарэчы, на ягоны завод у Кёльне не ўпала за вайну ніводная бомба, хоць сам горад быў моцна разбураны.

Бацьку стала вядома, што Генры Форд збіраецца правесці прэс-канферэнцыю для журналістаў, на якой мае намер выкрыць Саветы ў тым, што яны скапіравалі адну з марак яго машын. Бацькава сакратарка пазваніла памочніку Форда і наладзіла іх сустрэчу на прамысловай выставе ў Нью-Йорку. Бацька з Фордам па-сяброўску пагаварылі, выпілі па чарцы каньяку. Бацька пераканаў субяседніка, што ён не мае рацыі, і той згадзіўся, паабяцаў не выступаць з абвінавачваннямі ў савецкі адрас. Але стрымаў слова не да канца. На сустрэчы з журналістамі ён сказаў, што ён не зусім упэўнены, што рускія скапіравалі яго машыну. Тым не менш, амерыканская прэса не раздзьмула супраць Саветаў чарговую раз'юшаную кампанію.

Паступова мае бацькі асвойваліся з Амерыкай і яе бытам. Яна ўражвала багаццем тавараў у крамах і парадкам. Напрыклад, ужо тады там прадавалася да 70 гатункаў марожанага. Да ўсяго, можна было спачатку папрасіць сумесь, скажам, клубнічнага і шакаладнага, а пасля сказаць, што перадумаў, захацеў арэхавага і бананавага, і прадавец (без незадаволенасці і папрокаў) выкідваў першую порцыю ў спецыяльны бак і падаваў табе другую. Гэты факт асабліва ярка захаваўся ў маіх дзіцячых успамінах.

Уражвала ветлівасць прадаўцоў, магчымасць заказаць любы тавар па тэлефоне. Заказ хутка прыносілі дадому. Калі бацьку спатрэбілася здаць у рамонт залаты гадзіннік, яго без усялякай квітанцыі прынёс праз чатыры дні хлопчык-пасыльны. Здзіўляла менавіта адсутнасць гэтых розных квітанцый. Прытым, гадзіннік быў здадзены ў Нью-Йорку, а вярнулі яго ў Вашынгтоне. Здзіўляла і тое, як вяліся дзелавыя перамовы. Многія пытанні, нават вельмі важныя, вырашаліся проста па тэлефоне. Дзейнічаў прынцып: «Тваё слова—твой вексель». Кепска было таму, хто ў дзелавым свеце хоць раз яго не стрымаў.

Бацькі здзіўляліся, асабліва на пачатку камандзіроўкі, калі іх проста ў магазіне выклікалі да міжгародняга ці міжнароднага тэлефона. Бацькава сакратарка ведала, дзе яны знаходзяцца, і тэлефаністка проста пераводзіла гаворку на тэлефон гэтага магазіна. Амерыканцы на дзіва ўмела скарыстоўвалі тэлефон. Прэзідэнт Рузвельт, між іншым, часам да паловы рабочага дня траціў на размовы па тэлефоне. Амерыка вымагала дакладнасці і акуратнасці ва ўсім—у выкарыстанні часу, у справах, у знешнім выглядзе і г. д. Абавязковай часткай адзення дзелавога чалавека быў і гальштук, і бялюткая кашуля, якую часам мянялі па некалькі разоў на дзень. З бізнесменам без гальштука многія наогул асцерагаліся мець справу. Звычку да белых кашуляў, няяркіх гальштукаў, строгіх касцюмаў, пераважна шэрага ці сіняватага колеру, бацька збярог да канца сваіх дзён.

У Нью-Йорку «Амгандаль» месціўся тады на вуліцы Мэдзісен, 210. Бацька ўсё больш асвойваўся з работай. Амерыканцы адносіліся да яго прыязна, выяўлялася нямала людзей, якія з сімпатыяй ставіліся да нашай краіны. Цяжкасці ўзнікалі пераважна з-за нашай расхлябанасці і няўмельства весці справы. Напрыклад, калі амерыканцы дамаўляліся штосьці зрабіць у такі вось дзень і а такой вось гадзіне, яны гэта сапраўды рабілі. Мы ж часта не былі гатовы да гэтага: ці з-за доўгіх узгадненняў з Масквой, ці з-за ўласнай неарганізаванасці. Гэта крыўдзіла партнёраў. Акрамя таго, мы не маглі прывыкнуць да іхняга стылю весці справы. Каб заказаць 20 сталоў для нашага прадстаўніцтва, дастаткова было, напрыклад, сказаць пра гэта вусна якому-небудзь фірмачу і даць яму сваю візітку. Мы ж прывыклі да кучы папер.

На жаль, абставіны канца 30-х—пачатку 40-х гадоў у нашай краіне не спрыялі паяўленню энергічных, самастойна думаючых людзей. Многія вопытныя кадры былі рэпрэсіраваны, а тыя, што прыходзілі на іх месца, альбо не мелі дзелавых якасцей і ведаў, альбо былі настолькі паралізаваны страхам, што асцерагаліся любых самастойных дзеянняў. На гэта звярталі ўвагу амерыканцы, з якімі даводзілася мець справу. Гары Гопкінс у сваіх запісах аб паездцы ў Маскву ў ліпені 1941 года, у прыватнасці, пісаў, што нічога не мог дамагчыся ад генерала артылерыі Якаўлева, з якім яму даводзілася весці перамовы паміж сустрэчамі са Сталіным. Ён быў здзіўлены «абмежаваннямі, якімі былі звязаны ніжэйшыя (усе, акрамя самых вышэйшых) чыноўнікі савецкай сістэмы: яны не асмельваліся вымавіць ні слова па любым пытанні, якое выходзіла за межы вызначанага парадку дня». На гэта скардзіліся члены місіі Гарымана-Бівербрука ў кастрычніку 1941 года. Яны таксама адзначалі, што, нягледзячы на розныя камісіі, іх работа мела мала толку. Усё вырашаў толькі Сталін.

Любую працу бацька пачынаў з таго, што вызначаў межы правоў, унутры якіх ён мог прымаць самастойныя рашэнні, і кіраваўся імі. Натуральна, амерыканцы звярнулі на гэта ўвагу і сталі ўсё часцей, асабліва ў гандлёвых справах, звяртацца менавіта да яго, абмінаючы нашага пасла К. Уманскага. Паслу гэта не спадабалася. Па ўспамінах бацькі, К. Уманскі быў досыць культурным чалавекам, добра ведаў замежныя мовы, але быў вельмі самалюбівы. Пэўна, гэта і прывяло да таго, што Уманскі разам з супрацоўнікамі, які прадстаўляў у пасольстве НКУС (на жаль, я забыў прозвішча гэтага таварыша каўказскай нацыянальнасці, якое бацька аднойчы называў), напісалі ў Маскву данясенне. Сутнасць яго зводзілася да таго, што, маўляў, Канстанцін Ігнатавіч Лукашоў, абыходзячы пасольства, вядзе з амерыканцамі перамовы, якія наносяць нашай краіне вялікую шкоду. Чым мог скончыцца такі данос той парою, тлумачыць не трэба. Але тым больш цікавая рэакцыя Масквы. Адтуль Уманскаму і Лукашову за подпісам Молатава і Мікаяна прыйшла тэлеграма, якая прадпісвала Лукашову ў далейшым усе гандлёвыя пермовы весці без удзелу пасольства. Гэта была добрая аплявуха даносчыкам. Праз нейкі час амерыканцы папрасілі Маскву замяніць Уманскага. (Пра некаторыя факты, якія выклікалі незадаволенасць амерыканцаў дзейнасцю Уманскага, можна прачытаць у кнізе А. Грамыкі «Памятнае»). Побач з гэтым, у абарону бацькі давалі тлумачэнні некаторыя вядучыя супрацоўнікі нашага пасольства. У пачатку снежня 1941 года бацька разам з А. Грамыкам ездзіў у Сан-Францыска сустракаць новага савецкага пасла М. Літвінава.

Бацька, як кіраўнік «Амгандлю», выклікаў усё большыя давер і павагу з боку амерыканцаў, таму кола пытанняў. якімі яму даводзілася займацца, пашыралася. У прыватнасці, амерыканцы звярталіся да яго з просьбамі аб адкліканні асобных савецкіх грамадзян «персон нон грата». Ён паведамляў пра гэта ў Маскву і наладжваў іх адпраўку дадому. Амерыканцам зручней было выкарыстоўваць для гэтага гандлёвае прадстаўніцтва, чым весці справы па афіцыйных дыпламатычных каналах, каб не ўскладняць добрыя адносіны паміж нашымі краінамі ў ваенныя гады.

Да пачатку саракавых гадоў у ЗША расцвіў ізаляцыянізм. Колькасць зацятых ізаляцыяністаў, якія не жадалі мець анічога з ваюючымі краінамі, дасягала, калі верыць апытанням грамадскай думкі, амаль трыццаці працэнтаў. Для гэтага былі свае прычыны.

Сярод насельніцтва ЗША вялікую ўдзельную вагу займалі выхадцы з Германіі. У свой час, калі выбіралася агульная для ЗША мова, нямецкая была блізкая да перамогі. Адсюль і пранямецкія настроі, і нежаданне пэўнай часткі насельніцтва ўдзельнічаць у вайне супраць Германіі.

У тыя гады ў ЗША актыўна дзейнічалі мясцовыя фашысцкія арганізацыі, якія віталі Гітлера як змагара з бальшавізмам. Яны былі маналікія, але, узнімаючы неймаверны шум і гвалт, былі важнай сілай у распаўсюджанні прапаганды, якую пастаўляў ім з Берліна Гебельс. У краіне дзейнічалі таксама арганізацыі тыпу «Германа-амерыканскі бунд». Колькасць іх членаў была, праўда, невялікая.

Велізарная колькасць амерыканцаў нямецкага паходжання была ў той час узрушана тым, што Гітлер зрабіў з Германіяй. Прафсаюзы і большасць рабочых былі настроены антынацысцкі. Аднак і яны былі захоплены ізаляцыянізмам: баяліся, што ўцягненне ЗША ў вайну знішчыць іх заваёвы ва ўмовах новага курсу. Карацей кажучы, пачуццё ізаляцыянізму было настолькі моцнае, што на шэрагу заводаў адбываліся нават страйкі супраць дапамогі ваюючым краінам. Гаворка, вядома, ішла найперш пра Англію, пра СССР і не згадвалася.

11 сакавіка 1941 года кангрэс ЗША прыняў закон аб ленд-лізе (у перакладзе з англійскай—пазычаць, здаваць у арэнду), які даваў права ўраду перадаваць у пазыку ці ў арэнду іншым дзяржавам розныя тавары і матэрыялы, неабходныя для іх абароны, у тым выпадку, калі яна, па вызначэнні прэзідэнта ЗША, была жыццёва важнай для абароны ЗША. Паводле ВСЭ (другое выданне, том 24), выдаткі ЗША на аперацыі па ленд-лізе з 11 сакавіка 1941 па 1 жніўня 1945 года склалі 46 мільярдаў долараў, што раўнялася амаль трынаццаці працэнтам усіх ваенных выдаткаў ЗША за гады вайны і больш за палову іх экспарту. Усяго па ленд-лізе было пастаўлена: узбраення (уключаючы судны) на 22102 мільёны долараў, нафтапрадуктаў на 2317, абсталявання і матэрыялаў на 9689, харчавання на 6089 мільёнаў долараў. Транспартныя і іншыя паслугі склалі 3755 мільёнаў долараў, а іншыя выдаткі (будаўніцтва заводаў, выдаткі федэральных агенцтваў)—2088 мільёнаў долараў. Краіны Брытанскай імперыі атрымалі па ленд-лізе пастаўкі на суму 30269 мільёнаў долараў, у тым ліку Англія—16090, Індыя—2188, Аўстралія—1382, Новая Зеландыя—299, Францыя—1406, Кітай—631, лацінаамерыканскія краіны—421, іншыя—424 мільёны долараў. СССР атрымаў дапамогу на суму 9800 мільёнаў долараў (па іншых крыніцах—каля 11 мільярдаў долараў).

У сваю чаргу ЗША ад краін антыгітлераўскай кааліцыі атрымалі розных тавараў і паслуг у выглядзе зваротнага ленд-ліза на 7,3 мільярда долараў.

Прыкладна за шэсць месяцаў да нападу на нас гітлераўскай Германіі амерыканцы сказалі бацьку, што напад рыхтуецца. Ён тэрмінова паведаміў пра гэта ў Маскву, тым самым, побач з Р. Зорге і некаторымі іншымі нашымі людзьмі за мяжой, стаў яшчэ адной крыніцай, якая паведамляла ўраду аб надыходзячай вайне. На жаль, па віне Сталіна з усіх гэтых паведамленняў не былі зроблены адпаведныя высновы.

21 чэрвеня (у нас ужо было 22 чэрвеня, між Масквой і Вашынгтонам розніца ў 8 гадзін) кароткахвалевыя перадатчыкі прынеслі трывожную вестку пра вераломны напад Германіі на СССР. Пачаліся першыя цяжкія, трывожныя месяцы Вялікай Айчыннай вайны. На жаль, па нашых афіцыйных паведамленнях цяжка было зразумець сапраўднае становішча на франтах. У той жа час гебельсаўская прапаганда таксама не магла быць крыніцай праўдзівай інфармацыі. Тым не менш, паступова станавілася відавочна, што немцы імкліва наступалі, наша армія несла вялікія страты. Да пачатку снежня былі захоплены Беларусь, Украіна, Прыбалтыка. Немцы стаялі за 70 кіламетраў ад Масквы, у блакадзе знаходзіўся Ленінград. Ці не дзве трэці прамысловых і сыравінных рэсурсаў краіны былі разбураны альбо знаходзіліся пад фашысцкай акупацыяй.

У тыя дні амерыканцы асабліва ўважліва ўзіраліся ў савецкіх людзей, што знаходзіліся ў ЗША. Самі яны не валодалі дастатковай інфармацыяй, і ў іх не было яснасці для выпрацоўкі ўласнай лініі паводзін у новых акалічнасцях.

Становішча было вельмі цяжкае. Бацька, як расказвалі пасля працаваўшыя побач з ім супрацоўнікі, стаў душэўным цэнтрам савецкай місіі: да яго гарнуліся савецкія людзі, што знаходзіліся там. Ён усіх супакойваў, гаварыў, што нашы няўдачы на франтах—гэта з'ява часовая, што неўзабаве ўсё нармалізуецца. Ад яго зыходзіла цвёрдая, спакойная ўпэўненасць, якая нараджала надзею.

Разам з тым на душы ў яго было неспакойна. Ён нічога не ведаў пра лёс сваіх бацькоў у захопленай немцамі Беларусі. Невядома было таксама, што з бацькамі і іншымі сваякамі маёй маці. Немцы захапілі Ноўгарад і былі ўжо прыкладна за сорак кіламетраў ад Валдая, яе родных мясцін. У блакадным Ленінградзе таксама аказаліся некаторыя сваякі.

Цвёрды, аптымістычны «імідж» савецкіх людзей меў у тыя дні вялікае значэнне для амерыканцаў.

На жаль, не ўсе нашы людзі паводзілі сябе такім чынам. У ЗША працаваў генерал Б. Ён запанікаваў, на кожным кроку плявузгаў на нашу краіну і яе армію, гаварыў: «Ну што гэта за армія, якая гэтак адступае! Чаго яна варта?» Праз нейкі час ён быў адкліканы ў Маскву. Пасля таго, як ён сышоў з самалёта, з яго знялі знакі адрознення і арыштавалі.

Мне зараз цяжка сказаць, на чым грунтаваўся аптымізм бацькі. Ён валодаў, як адзначалі пасля многія, уменнем бачыць далей, чым большасць людзей. Гэта, напэўна, прыроджаны дар, памножаны на цвярозы розум і веды. Акрамя таго, ён умеў настройваць сябе і акружэнне на лепшыя праявы жыцця і знаходзіць іх. Яго веданне нашай краіны, якую ён скалясіў ад заходніх меж да Уладзівастока, ацэнка таго велізарнага прамысловага і ваеннага патэнцыялу, якім валодалі ЗША і іншыя краіны антыгітлераўскай кааліцыі, напэўна, спараджалі ўпэўненасць у нашай перамозе. Бліжэйшая ж яго мэта была ў наладжванні і атрыманні амерыканскай дапамогі.

Па ініцыятыве прэзідэнта «Амгандлю» наша гандлёвае прадстаўніцтва было перанесена з Нью-Йорка ў Вашынгтон, туды, дзе знаходзіліся асноўныя ўрадавыя ведамствы ЗША. Адлегласць ад Нью-Йорка да Вашынгтона—каля 400 кіламетраў і займала амаль 8 гадзін язды на цягніку. Насельніцтва Вашынгтона тым часам складала каля мільёна чалавек. За кароткі час з малога правінцыйнага гарадка, па брудных вуліцах якога бегалі свінні, ён вырас у сучасны горад, з той адметнасцю, што там амаль цалкам адсутнічала прамысловая вытворчасць. Як пісалі журналісты, рухаючай сілай і індустрыяй Вашынгтона былі ўрадавыя ўстановы і сам урад.

Пераезд у Вашынгтон быў звязаны з вялікімі турботамі. Размясціліся на 16-й стрыт—адной з цэнтральных вуліц, у доме № 3355. Бацька, як заўсёды, уважліва сачыў за ўсімі бакамі жыцця даверанай яму ўстановы. У прыватнасці, звярнуўшы ўвагу на тое, што нанятыя шафёры, пераважна негры, марнуюць час між паездкамі на калідорах і ў пакоях гандлёвага прадстаўніцтва, распарадзіўся абсталяваць для іх спецыяльны пакой, своеасаблівы чырвоны куток, дзе яны маглі пагуляць у шашкі і адпачыць да выкліку.

Я не маю на мэце даць навуковы аналіз ленд-ліза. Адзначаюцца ў ім толькі паасобныя вешкі, з якіх складваліся адносіны між саюзнікамі ў гады Другой сусветнай вайны. Для іх развіцця вялікае значэнне мела, напрыклад, паездка Гары Гопкінса ў Маскву ў канцы ліпеня 1941 года. У часе яго сустрэч са Сталіным апошні, у прыватнасці, ахарактарызаваў тыя віды дапамогі, якія патрэбны нашай краіне неадкладна і якія важныя з пункту гледжання працяглага вядзення вайны. У першую катэгорыю неадкладных патрэб Сталін уключыў зенітныя гарматы сярэдняга калібра разам з боепрыпасамі, буйнакаліберныя кулямёты для гарадоў, каля мільёна вінтовак. У другую катэгорыю ўваходзілі матэрыялы, неабходныя для вядзення працяглай вайны: высокаактанавы авіяцыйны бензін, алюміній для вытворчасці самалётаў, а таксама іншыя матэрыялы, уключаныя ў спіс, прадстаўлены ўраду ЗША ў Вашынгтоне. У часе гэтых сустрэч ішла гаворка і пра самалёты, якія пачалі пастаўляцца ў СССР (як паведамлялася ў «Известиях» у кастрычніку 1988 года, наша краіна атрымала ад ЗША каля 12 тысяч самалётаў).

Праблема паставак і дапамогі займала цэнтральнае месца і ў часе прыезду ў Маскву місіі Гарымана і Біверброка ў канцы верасня 1941 года. У гутарцы з яе членамі Сталін, характарызуючы становішча на фронце, сказаў, што перавага Германіі над Расіяй складае ў авіяцыі 3:2, па танках 3:1 альбо 4:1, па колькасці дывізій—320:280. Сталін досыць падрабязна спыняўся на неабходных нашай краіне пастаўках, падкрэсліўшы, што больш за ўсё мы маем патрэбу ў танках, а затым у супрацьтанкавых гарматах, брані, знішчальніках і разведвальных самалётах і, што досыць важна, у калючым дроце.

Будучы стрыманым у часе перамоў, як піша пра гэта Р. Шэрвуд (гл. Роберт Шэрвуд. Рузвельт і Гопкінс. Том 1, 2. Выд. «ИЛ», Масква, 1958), Сталін ажывіўся, калі Гарыман сказаў пра амерыканскую прапанову перадаць Расіі 5 тысяч аўтамабіляў «Віліс». Ён спытаў, ці нельга атрымаць больш, падкрэсліўшы, што мы маем вострую патрэбу ў максімальна магчымай колькасці «Вілісаў», а таксама ў амерыканскіх грузавіках-трохтонках (славутыя «Студабекеры» сыгралі выключную ролю ў вайне). Далей Сталін сказаў, што зыход вайны залежыць ад бензінавага матора, што краіна з максімальнай вытворчасцю матораў акажацца ў рэшце рэшт пераможцай. 1 кастрычніка 1941 года Гарыман, Біверброк і Молатаў паставілі свае подпісы і пячаткі пад першым «канфедыцыяльным пратаколам» між ЗША, СССР і Злучаным Каралеўствам. Ён уключаў больш за 70 асноўных відаў паставак і больш чым 80 прадметаў медыцынскага забеспячэння. Там было ўсё, пачынаючы ад танкаў, самалётаў і эсмінцаў да салдацкіх ботаў (іх трэба было 400 тысяч пар штомесяц).

У канцы кастрычніка сорак першага года прэзідэнт ЗША сустракаўся з прадстаўнікамі рускай місіі ў ЗША і падрабязна абмеркаваў яе работу. Аднак афіцыйна СССР быў уключаны ў лік краін-атрымальнікаў ленд-ліза толькі 7 лістапада 1941 года. Амерыканскі ўрад тлумачыў гэта цяжкасцямі прэзідэнта ў стасунках з грамадскай думкай ЗША (я ўжо згадваў пра ізаляцыяніскія настроі ў Амерыцы). Акрамя таго, у гэты час немцы былі за трыццаць кіламетраў ад Масквы, і толькі самыя празорлівыя людзі маглі зразумець, што нават захоп Масквы не вырашыў бы зыход вайны, як гэта было з Напалеонам, што ў гераічнай барацьбе савецкага народа і яго арміі пачынаюць вымалёўвацца абрысы таго, што нават такая дасканалая ваенная машына, якой была фашысцкая Германія, не зможа перамагчы СССР. Аднак такія людзі былі ў ЗША, і яны дамагліся таго, што нашы краіны сталі саюзнікамі ў барацьбе з агульным ворагам.

(Заканчэнне будзе).

# ДРАГУН Ігар Іосіфавіч

13 лістапада 1992 года, на 47-м годзе жыцця, памёр член Цэнтральнай Рады Беларускай сацыял-дэмакратычнай Грамады Ігар Драгун.

Перастала біцца гарачае сэрца патрыёта Беларусі, чалавека, які шмат рабіў і зрабіў для адраджэння і арганізацыі сацыял-дэмакратычнага руху на Берасцейшчыне. Берасцейская гарадская філія за кароткі час вырасла ў адну з буйнейшых арганізацый партыі ў многім дзякуючы намаганням Ігара Драгуна.

Нястомны, ініцыятыўны, чалавек вялікай душы — такім ён назаўжды застанецца ў нашых сэрцах.

Выказваем глыбокае спачуванне родным і блізкім.

**ВЫКАНКОМ ЦЭНТРАЛЬНАЙ РАДЫ БСДГ**

# ДЛЯ ХРЫСТА; КАСЦЁЛА І БАЦЬКАЎШЧЫНЫ

7 лістапада ў Менску адбыўся устаноўчы Сойм Задзіночання каталіцкай моладзі Беларусі. На Сойм сабраліся прадстаўнікі з 12 гарадоў і мястэчак краіны. У працы Сойма ўдзельнічалі айцец Міхал Сапель — капелян Беларускай Каталіцкай Грамады, сп. Фелікс Янушкевіч — старшыня БГК, сакратар БГК сп. Алесь Бяляцкі, якія прывіталі сход. Пасля непрацяглай дыскусіі адбылося прыняцце шэрагу дакументаў. Між імі: Часовае палажэнне аб дзейнасці ЗКМБ і заява Сойма, з якіх вынікае, што Задзіночанне — гэта грамадскае, культурна-асветніцкае згуртаванне моладзі каталіцкага веравызнання і ўтвараецца яно з мэтаю пашырэння хрысціянства ва ўсіх галінах жыцця, адраджэння каталіцкага касцёла Беларусі, ды дапамогі моладзі ў пошуках ісціны. ЗКМБ будзе дзейнічаць пад апекаю беларускага святога Андрэя Баболі з прынцыпам «Для Хрыста, Касцёла і Бацькаўшчыны». Будзе існаваць друкаваны орган — часопіс «Рыцар Беззаганнай». Напрыканцы Сойм абраў Раду каардынатараў, у якую ўвайшлі прадстаўнікі суполак, а таксама старшыню Рады і галоўнага рэдактара часопіса. Наперадзе руплівая штодзённая праца на хвалу Бога і Бацькаўшчыны.

**Калі хто зацікавіўся дзейнасцю Задзіночання, звяртайцеся, калі ласка, па тэлефоне ў Менску 27-04-67.**

**Кірыла ЛУЦКІ.**

**АБ'ЯВА**

**БЕЛАРУСКАЯ ОРДЭНА ДРУЖБЫ НАРОДАЎ АКАДЭМІЯ МУЗЫКІ**

**АБ'ЯЎЛЯЕ КОНКУРС**

**на замяшчэнне пасад прафесарска-выкладчыцкага саставу (для тых, хто мае мінскую прапіску)**

Кафедра замежных моў —

ст. выкладчык (англійская мова)—1;

ст. выкладчык (руская мова для замежных студэнтаў) — 1.

Кафедра драўляных духавых інструментаў —

дацэнт (кларнет)—0,5.

Тэрмін падачы заяў — адзін месяц з дня апублікавання.

Заявы і дакументы, згодна Палажэнню аб конкурсах, накіроўваць на імя рэктара на адрас: 220030 г. Мінск, вул. Інтэрнацыянальная, 30. Даведкі па тэл.: 27-49-42, 26-06-70.

